# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 12 (2570) 26 сакавіка 1998 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1500 рублёў.

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ




**У горадзе Іванаве ўстаноўлены помнік Напалеону Ордзе — кампазітару, мастаку, грамадскаму дзеячу, які нарадзіўся недалёка адсюль у маёнтку Варацэвічы каля двух стагоддзяў назад. Імя яго доўгі час незаслужана было забыта, аднак у апошнія гады славутаму земляку прысвячаюцца пленэры, раённая бібліятэка вядзе пошук матэрыялаў аб ім. Сувязь з многімі архівамі Еўропы дазволіла атрымаць каштоўныя дакументы аб жыцці Напалеона Орды, копіі больш двухсот літаграфій яго малюнкаў.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік Напалеону ОРДЗЕ ў Іванаве.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

*СУСТРЭЧА З МАСТАКОМ*

## ЛЮДЗІ, ЯК КОЛЕРЫ...

Мастак Айша Александровіч — вельмі цікавы чалавек, сапраўдная творчая натура, адметная не толькі сваёй працай, што цалкам натуральна, але і неардынарным светапоглядам. Заўважаць прыгажосць нават у паўсядзённых, будзённых з'явах — для яе вельмі характэрна. Таксама, як і цікавіцца глыбіннымі праявамі чалавечай душы. Яна любіць жыццё і людзей, можа, таму і творчасць яе такая яркая, іскрыстая, па-сапраўднаму жывая. Айша Александровіч — выдатны мастак па сцэнічным касцюме, ужо не першы год працуе з Дзяржаўным ансамблем танца Валянціна Дудкевіча, дзе яе талент раскрыўся найбольш ярка і поўна. Мы з задавальненнем знаёмім чытачоў з мастачкай і прадастаўляем ёй слова.



**ПРА ТОЕ, ЯК УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ**

— Мой першы асэнсаваны малюнак — малюнак балерыны. Убачыла яе ў пачцы, у класічнай позе, у каляндарыку — больш не было дзе, бо нарадзілася і вырасла ў невялікім беларускім гарадку Узда: там не тое што тэатра, мастацкага гуртка не было.

Балерына мяне літаральна зачаравала. Здарылася так, што бацькі аднымі з першых на нашай вуліцы купілі тэлевізар, вось тады і пачаўся ўвесь гэты, як казала маці, "кардэбалет". Смешна, але я лічыла "кардэбалет" словам, спецыяльна ёю прыдуманым, каб выказаць усё неадабрэнне, якое магла адчуваць жанчына-мусульманка да напаўраспранутых танцоўшчыц.

А ўва мне ўвесь час жыла цікавасць да сцэны. Я ў дзяцінстве і юнацтве нават крыху пела і танцавала. І ўборы мы самі майстравалі. І па сённяшні захоўваю падзячны ліст за лепшы касцюм на школьным балі-маскарадзе. Мне здаецца, нейкая вышэйшая сіла вяла мяне па жыцці да маёй прафесіі. І хаця бацькі былі вельмі простымі, недзе ў радні трапляліся людзі мастацтва, больш, праўда, музыканты. Дзякуй, сем'і ва ўсіх былі вялікімі. І калі я паступіла ў мастацкае вучылішча, першае, куды пайшла, — оперны тэатр: памятаю, балет называўся "Блакітны Дунай".

Пасля вучылішча год працавала ў школе настаўніцай, а потым зноў вучоба — у мастацкім інстытуце на прыкладным

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## «СВЯТЛО КУПАЛАВА ДОМУ»

Пад такой назвай выпусціў кніжачку Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Складальнік яе Жанна Дапкюнас, аўтары тэкстаў Вячаслаў Рагойша і Антаніна Хатэнка. Усё гэта людзі, шчыра адданыя песняру, яго паэзіі, справе яго жыцця. І таму іх захапленне так натуральна перадаецца чытачу і абуджае жадан-



не прайсці і праехаць па мясцінах, звязаных з Янкам Купалам.

Янка Купала — своеасаблівы сімвал нашага народа, зазначае В. Рагойша. Ён займае ў яго гісторыі такое ж месца, як Шэкспір у англічан, А. Пушкін у рускіх, А. Міцкевіч у палякаў, Тарас Шаўчэнка ў украінцаў, у амерыканцаў Уолт Уітмен, а ў венграў Шандар Пецёфі.

Сацыяльная несправядлівасць і нацыянальны ўціск дарэвалюцыйнага часу асуджалі Янку Купалу з яго "мовай убогай" на ролю літаратурнага эпігона, пераймальніка "сваіх" і "чужых" літаратурных узораў. Ён жа ў ліку першых сфарміраваў сучасную беларускую літаратуру і літаратурную мову. Народны паэт Беларусі — выдатны майстар паэтычнага слова, адзін з самых буйных паэтаў, якіх увогуле ведае сусветная літаратура.

"Творчасць Янкі Купалы, — зазначае В. Рагойша, — нібыта шырока расчыненае акно ў свет усёй беларускай паэзіі першай паловы XX стагоддзя. Адсюль, з акна Купалавай паэзіі, лепш бачацца не толькі тыя магістральныя шляхі, якімі ішла беларуская літаратура на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў, а нават узбочныя дарогі і сцежкі..."

Янка Купала — прыклад сапраўды народнага паэта. А з цягам часу яго творчасць і сама постаць песняра будуць прыцягваць штораз большую ўвагу не толькі літаратуразнаўцаў, але і моваазнаўцаў, філосафаў, псіхолагаў.

Эмацыянальна і прачула вядзе экскурсію па Купалаву дому Антаніна Хатэнка. Пазнаёміў-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**ВЫВАЗ І ЎВОЗ ЭКЗАТЫЧНЫХ ЖЫВЁЛІН**

## ДАХОДНЫ ПРОМЫСЕЛ

Дзівацтвы ў людзей, як вядома, бываюць розныя. Адна беларуская грамадзянка з горада Мазыра раптам зразумела, што не будзе ёй у жыцці шчасця без заморскай яшчаркі ігуаны, і пасля доўгіх пошукаў набыла яе на базары ў асабістае карыстанне. Жылі яны з ігуанай душа ў душу, і так гэтая дама палюбіла заморскага звярка, што калі вырашыла адпачыць на далёкім востраве Кіпр, то не змагла адарваць ігуану ад сэрца і вырашыла ўзяць яе з сабой. І вось тут канчаецца лірыка і пачынаюцца праблемы, звязаныя з афармленнем сертыфікатаў на ўвоз і вываз узораў, прадугледжаных Канвенцыяй аб міжнародным гандлі відамі дзікай фауны і флоры, што знаходзіцца пад пагрозай знікнення (скарочана CITES). Канвенцыя была падпісана 3 сакавіка 1973 года ў Вашынгтоне на канферэнцыі паўнамоцных прадстаўнікоў 80 дзяржаў і ўступіла ў сілу 1 ліпеня 1975 года. Яе прынясце было выклікана трывогай народаў і дзяржаў за захаванне дзікай прыроды і неабходнасцю міжнароднага супрацоўніцтва для аховы некаторых відаў дзікай флоры і фауны ад празмернай эксплуатацыі ў міжнародным гандлі. Сёння ўдзельнікамі канвенцыі з'яўляюцца 142 краіны, у тым ліку і Беларусь. CITES рэгулюе экспарт, рээкспарт, імпарт раслін і жывёл у залежнасці ад статуса кожнага з відаў. У адпаведнасці з CITES працэдура ўвозу ў любую краіну жывых жывёлін, а таксама іх частак і вытворных ад іх (дэрыватаў) абстаўлена многімі абмежаван-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА

## ВАЛДАС АДАМКУС СУСТРЭЎСЯ З ПАСЛОМ БЕЛАРУСІ Ў ЛІТВЕ ЯЎГЕНАМ ВАЙТОВІЧАМ

**Транзіт грузаў быў адной з важных тэм, абмеркаваных на сустрэчы Прэзідэнта Літвы Валдаса Адамкуса з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў гэтай краіне Яўгенам Вайтовічам, якая адбылася 16 сакавіка ў Вільюсе.**

**Як паведамляе літоўскае агенцтва ЭЛЬТА, беларускі дыпламат, адказваючы пасля сустрэчы на пытанні журналістаў, выказаў надзею на тое, што ўжо ў гэтым годзе дзве дзяржавы падпішуць Дагавор аб рэадмісіі і ўдасца поўнасцю вырашыць праблему чэргаў грузавых аўтамабіляў на літоўска-беларускай граніцы. Паводле слоў Яўгена Вайтовіча, апошняя праблема ўжо вырашаецца: чэргі грузавых аўтамабіляў на граніцы значна зменшыліся. "Канчаткова гэта пытанне вырашыцца, калі ўступяць у эксплуатацыю мытныя тэрміналы на пагранічным пераходным пункце Мядзінінкай — Каменны Лог, што будуюцца цяпер", — падкрэсліў беларускі дыпламат.**

**Паводле сцвярджэння Яўгена Вайтовіча, работы па дэмаркацыі граніцы Літвы і Беларусі праходзяць нармальна і ў хуткім часе будуць завершаны.**

**Пасол паведаміў, што на сустрэчы з Прэзідэнтам Літвы размова ішла і аб стане двухбаковых эканамічных адносін. Акрамя таго, абмяркоўвалася пытанне продажу Беларусі электраэнергіі, што выпрацоўваецца на Ігналінскай АЭС. У ходзе сустрэчы абодва бакі абмеркавалі перспектывы рэгіянальнага супрацоўніцтва, а таксама працэсы, што адбываюцца ўнутры СНД.**

РЭГІЯНАЛЬНЫ СЕМІНАР



**18 і 19 сакавіка Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь: ледзь ці не ў поўным саставе знаходзіўся на Віцебшчыне. Тут прайшоў рэгіянальны семінар "Праблемы ўдасканалення заканадаўства ў Рэспубліцы Беларусь: практыка, тэндэнцыі, перспектывы".**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі семінара ў адным са зборачных цэхаў прыборабудаўнічага завода.**

З НАГОДЫ

## СПРАВА ПАРТЫІ ЖЫВЕ...

**У Мінску па ініцыятыве КПБ прайшлі святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю І з'езда РСДРП. Адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя, на якой выступілі вучоныя сацыялістычнай арыентацыі з Беларусі і Расіі.**

**У мерапрыемствах прынялі ўдзел многія палітычныя і дзяржаўныя дзеячы Украіны, Беларусі, Кубы, Карэі, Грэцыі і іншых краін.**

**Прысутныя адзінадушна адобрылі Хартыю-98.**

**Ва ўрачыстым сходзе прынялі ўдзел старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. Малафееў, паўнамоцны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у СНД С. Посахаў.**

**Для ўдзельнікаў урачыстага сходу быў арганізаваны канцэрт, у якім прынялі ўдзел многія вядомыя выканаўцы і ансамблі.**

**Замежныя прадстаўнікі партый і грамадскіх аб'яднанняў, што прыбылі на мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю І з'езда РСДРП, былі прыняты А. Малафеевым.**

СПОРТ І ПАЛІТЫКА

## АБ'ЯДНАНАЙ КАМАНДЫ НЕ БУДЗЕ

**Віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі, нядаўна прызначаны міністр спорту і турызму Мікалай Ананьеў заявіў, што беларускія і расійскія спартсмены не будуць выступаць на наступных алімпіядах аб'яднанай камандай.**

**Мы — суверэнная дзяржава, падкрэсліў Мікалай Ананьеў, і будзем самастойна ўдзельнічаць у алімпійскіх форумах.**

**Каменціруючы інфармацыю аб тым, што ў час знаходжання ў Нагана кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, які з'яўляецца і прэзідэнтам беларускага НАКа, вёў перагаворы аб стварэнні аб'яднанай каманды з кіраўнікамі расійскага спорту, Ананьеў адзначыў яе недакладнасць.**

ПОЛЬСКАЯ ВЫСТАВА



**У Палацы мастацтва ў Мінску адкрылася Нацыянальная шматгаліновая выстава "Бізнес-Польшча-98", арганізаваная Міністэрствам эканомікі Польшчы і Міністэрствам знешніх эканамічных сувязей Беларусі чацвёрты раз. Тут прадстаўлена прадукцыя трыццаці фірм Польшчы. Суседзі прапаноўваюць беларускім партнёрам штучнае футра і прадукты харчавання, гандлёвае і ацяпляльнае абсталяванне і прадукцыю алюмініевай прамысловасці, насенне збожжавых і кармавых культур. Шырока прадстаўлена польская касметыка і тканіны, турыстычны рыштунак.**

**На выставе "Бізнес-Польшча-98" экспануюцца сучасны польскі плакат і кніжная прадукцыя.**

**НА ЗДЫМКУ: на адкрыцці выставы выступіў фальклорны ансамбль польскага зямляцтва ў Гродне "Лехіцы".**

З'ЕЗД ФЕРМЕРАЎ

## УРАД ПАДТРЫМАЕ

**Сёмы з'езд фермераў Беларусі адбыўся 12 сакавіка ў Мінску. У яго рабоце прымаў удзел віцэ-прэм'ер краіны Уладзімір Гаркун.**

**Выступаючы перад дэлегатамі, ён заявіў, што ўрад рэспублікі мае намер усямерна падтрымліваць фермерскі рух. Прынятыя напярэдадні нядаўняй нарады па пытаннях аграпрамысловага комплексу ўказы Прэзідэнта краіны і пастановы ўрада прадастаўляюць фермерам права на павелічэнне зямельнага ўчастка, на арэнду пустуючых памяшканняў у калгасах і саўгасах, а таксама на атрыманне льготных банкаўскіх крэдытаў пад заклад маёмасці і будучага ўраджаю. Акрамя таго, паводле слоў Уладзіміра Гаркуна, плануецца таксама ўнясенне некаторых паправак у Закон "Аб фермерскіх гаспадарках".**

**У мэтах павышэння спецыяльнай падрыхтоўкі фермераў плануецца стварэнне доследных фермерскіх гаспадарак, на базе якіх будуць адпрацоўвацца эфектыўныя тэхналогіі і праводзіцца навучанне. Адказваючы на пытанні дэлегатаў з'езда, Уладзімір Гаркун заявіў, што ў гэтым годзе дзяржава гатова закупіць у беларускіх фермераў увесь ураджай зернебабовых культур.**

МІТЫНГ

## АПАЗІЦЫЯ АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ

**Дзяржаўнае свята Дзень Канстытуцыі застаецца для апазіцыі балючым напамінам пра канстытуцыйны рэферэндум 1996 года, вынікі якога яна не прызнае дагэтуль. 14 сакавіка ў канферэнц-зале гасцініцы "Юбілейная" сабраліся каля трыццаці дэпутатаў распушчанага Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якія правялі сваё спецыяльнае пасяджэнне, прымеркаванае да гэтага свята. Дэпутаты, замежныя госці і журналісты заслухалі даклад Сямёна Шарэцкага, які яшчэ раз крытычна ацаніў вынікі апошняга рэферэндуму і пераўтварэнняў, што адбыліся ўслед за ім.**

**А 15 сакавіка ў Мінску прайшлі шэсце і мітынг, арганізаваныя Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, "Народнай грамадой" і Партыяй працы. Сабраліся каля трох тысяч маніфестантаў, якія прайшлі па загадзя ўзгодненаму з Мінгарвыканкомам маршруту.**

**Пасля заканчэння мітынгу быў затрыманы лідэр БСДП "Народная грамада" Мікалай Статкевіч, на якога ў Савецкім РАУС сталіцы быў складзены пратакол аб адміністрацыйным парушэнні. Іншых інцыдэнтаў не зафіксавана.**

НАЛЕЖЫЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

## БНР — ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

"Круглы стол" з такой назвай прайшоў у Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь. У ім прынялі ўдзел вядучыя навукоўцы нашай суверэннай дзяржавы.

80 гадоў таму — 25 сакавіка 1918-га — узнікла Беларуская Народная Рэспубліка. Гэта быў складаны, супярэчлівы, шмат у чым неадназначны час. Наш край — спакутаваны вайной і замежнай інтэрвенцыяй, голадам і холадам — тым не менш, трымаўся годна і па-свойму незалежна. І хаця ўлада ў ім пераходзіла з рук у рукі, знайшліся людзі — шчырыя і праведныя патрыёты Айчыны, якія, не шкадуючы сіл, працавалі ў імя незалежнасці, самастойнасці, суверэнітэту Бацькаўшчыны.

З таго часу мінула роўна восем дзесяцігоддзяў. Мала гэта ці многа? Для чалавека — цэлае жыццё, для гісторыі — усяго толькі некалькі старонак. Аднак, на вялікі жаль, тыя старонкі вось ужо колькі часу (а па сутнасці — увесь гэты перыяд) мы ніяк не можам аб'ектыўна ацаніць, упісаць іх на належнае ім месца ў той жа Яе Вялікасці Гісторыі.

З мэтай прыйсці ці хаця б наблізіцца да ісціны, паспрабаваць чарговы раз аб'ектыўна зірнуць на падзеі 80-гадовай даўнасці і прыйшлі на пасяджэнне "круглага стала" акадэмікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Ігарыён Ігнаценка і Міхаіл Касцюк, дактары гістарычных навук Пётр Брыгадзін, Уладзімір Ладысеў, Уладзімір Міхнюк, кандыдаты гістарычных навук Уладзімір Казлякоў, Аляксандр Міхальчанка, Віталь Скалабан, кандыдаты філасофскіх навук Леў Крыштаповіч і Яўген Матусевіч.

Абазначаючы накірунак гаворкі, І. Ігнаценка зазначыў: настаў час найперш высветліць, наколькі легітымнай была Беларуская Народная Рэспубліка? Чаму існаванне і дзейнасць яе былі кароткачасовымі і вузкімі: з самага пачатку кіраўніцтва БНР найбольшую ўвагу звярнула на знешнепалітычную дзейнасць? У ходзе дыскусіі сам жа акадэмік і адказваў на гэтыя і іншыя пытанні. Рада БНР не мела ў народзе шырокай апоры, таму і шукала яна падтрымку спачатку ў нямецкіх акупацыйных улад, потым — у польскіх. Ей абяцалі, яе запэўнівалі, аднак канкрэтна і практычна ніхто не падтрымаў...

М. Касцюк заявіў адназначна: абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі стала вынікам развіцця нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі на пачатку XX стагоддзя. І тут жа дадаў: без Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917-га гэта было б немагчымым. Факт утварэння БНР паскорыў узнікненне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. На погляд акадэміка, арыентацыя кіраўніцтва БНР на Германію была непапулярнай сярод народа, таму беларусы і не падтрымлівалі іх.

В. Скалабан цвёрда перакананы, што за апошнія некалькі гадоў адбылася грамадзянская і палітычная рэабілітацыя дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Нарэшце наша гістарычная навука павярнулася тварам да тых сапраўды гістарычных падзей. Выдадзена шмат манаграфій, даследаванняў, артыкулаў аб дзейнасці Рады БНР, абаронена некалькі кандыдацкіх дысертацый па гэтай цікавай тэматыцы. Тым нем менш, вучоны занепакоены ранейшымі спробамі асобных заангажыраваных навукоўцаў "бачыць" і "паказаць" гэту тэму ў іншым святле.

Каму ж мей на ўвазе выступоўца? Тут жа, на пасяджэнні "круглага стала", гэта стала відавочным. У. Казлякоў, Л. Крыштаповіч лічылі і лічаць БНР штучным утварэннем, усяго толькі ідэяй утварэння дзяржавы, больш таго — "спробай ажыццяўлення той ідэі на штыках" заваёўнікаў (Л. Крыштаповіч). Іншыя ўдзельнікі размовы з гэтым рашуча не пагадзіліся. І. Ігнаценка, М. Касцюк, У. Ладысеў, У. Міхнюк і іншыя ў сваіх думках і развагах прыходзілі да высновы: Беларуская Народная Рэспубліка была дзяржавай у стадыі ўтварэння і фарміравання. Да дзяржаўнасці беларуская нацыянальныя дзеячы не дайшлі, аднак ад самой ідэі да яе ажыццяўлення пайшлі вельмі далёка. І ніхто больш рашуча не адстойваў інтарэсы Беларусі — найперш, паўторым, на міжнароднай арэне, чым дзеячы БНР!

Размова за "круглым сталом" была дзелавой, вострай, канструктыўнай. Да адзіных высноў удзельнікі не прыйшлі, ды гэтага, уласна кажучы, ніхто і не чакаў. Аб гісторыі, справах і здзяйсненнях дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі гаварылі разумныя, дасведчаныя людзі. Ім, як кажуць у такіх выпадках, і карты ў рукі. Горш іншае: калі "ацэньваць" падзеі Гісторыі бяруцца аматары гісторыі... Але гэта ўжо іншая размова.

БНР у айчыннай гісторыі была. І ёй час заняць сваё месца ў летапісе Бацькаўшчыны. Аб'ектыўнае — з набыткамі і поспехамі, пралікамі і няправільнымі крокамі. Тады і будзем мы, беларусы, мець нарэшце сваю сапраўдную Гісторыю!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**("Звязда").**

ПРЫНЦЭСА ЭЛЬФАЎ



**Пераможцай конкурсу прыгажосці, песні і танца, які праходзіў нядаўна ў краснапольскім Доме піянераў і школьнікаў (Магілёўская вобласць), стала прынцэса Каралеўства эльфаў — так называлася яе гераіня — вучаніца чацвёртага класа сярэдняй школы №1 Юля АРЛОВА (на здымку).**

**Юля добра вучыцца, спявае і танцуе. Любіць сваю Краснапольшчыну, нягледзячы на чарнобыльскую бяду, ад якой яна пацярпела.**

# ДАХОДНЫ ПРОМЫСЕЛ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

нямі, і да ведама ўсіх, хто ў бліжэйшы час збіраецца на Кіпр з сваёй любімай ігуанай: нават калі тут, у Беларусі, дакументы будуць афармлены ў поўнай адпаведнасці з міжнароднымі патрабаваннямі, самыя нечаканыя праблемы могуць узнікнуць па той бок граніцы.

Аб тым, што зброя і наркотыкі з'яўляюцца самымі даходнымі відамі нелегальнага бізнесу, ведаюць амаль усе. Але аб тым, што на трэцяе месца ў гэтым спісе сёння выходзіць кантрабандны гандаль экзатычнымі жывёламі і птушкамі, загаварылі толькі нядаўна. Для таго каб уявіць даходы, якія можа прынесці гэты бізнес, прывядзём некаторыя цэны. За абуначага сокала можна смела прасіць 100 тысяч долараў, паўднёва-амерыканскі папугай "пацягне" на 40 тысяч долараў, перуанскі матылёк каштуе 3 тысячы долараў. Па звестках Інтэрпола, аб'ём незаконнага ўвозу-вывазу рэдкіх відаў жывёл і раслін складае 6 мільярдаў долараў у год. "Жывую" кантрабанду, як і ўсякую іншую, вязуць тайна. Мітуслівых малпаў поюць снатворным і запіхваюць у чамаданы з патайнымі адтулінамі, птушак часта спойваюць спіртным і хаваюць у скрыні. Нярэдка жывёліны ад такога абыходжання гінуць, але гэта нікога не спыняе.

Пагранічная Беларусь не засталася ў баку ад сусветных тэндэнцый. Аптовыя партыі экзатычных стварэнняў, як правіла, прыходзяць сюды з Расіі, бо кантроль на мяжы практычна адсутнічае. Аднак далёка не ўсе экзатычныя жывёліны трапляюць да нас з далёкай Афрыкі ці лясоў Амазонкі. Калі ў магазіне "Прырода" прадаецца кракадзіл, якому без малога месяц, наіўна думаць, што нованароджанага толькі што вылавілі з далёкага Ніла і тайна даставілі ў заснежаную Беларусь. Больш лагічна меркаваць, што транспартавалі сюды ў лепшым выпадку яйкі кракадзіла, якія потым "дайшлі" ў мясцовым інкубатары. Самых розных змей, мадагаскарскіх тараканаў, яшчарак і пранізліва зялёных квакш умельцы ўжо даўно навучыліся разводзіць самастойна, у звычайных гарадскіх кватэрах. Так што, зусім верагодна, што ўдаў, які абыякава пазірае з тэрарыума на наведвальнікаў зоамагазіна, быў выведзены ў кватэры вашым нелюдзімым суседам. Дарэчы, канвенцыя CITES заахвочвае развядзенне жывёл у няволі, і калі ў той ці іншай краіне ёсць попыт на якую-небудзь жывёліну, лічыцца, што лепш разводзіць яе "на месцы", чым завозіць здалёку з рызыкай для жыцця. Але ў даным пытанні было б разумна пайсці па шляху Японіі, дзе даўным-даўно было прызнана, што гарадскія шматкватэрныя дамы ўсё-такі не прыстасаваны для развядзення жывёл.

Неяк у аэрапорце Мінск-1 была затрымана партыя папугаяў жако, у мінулым годзе з Пецярбурга ў Кіеў праз Гомель везлі буйны кантрабандны груз экзатычных жывёлін. Калі гаспадар зразумеў, што пагранічнікі выявілі яго, ён непрыкметна знік, і ў распараджэнне пагранічнікаў трапіла сапраўдная прамяністая чарапаха. Яна была вялікай, вельмі прыгожай і падобнай на расфарбаваную супавую талерку. А яшчэ сярод затрыманага грузу былі жабы-часночніцы і каспійскія чарапахі. Вялікім попытам у пакупнікоў карыстаюцца змеі, але іх прасцей вывезці, і таму пагранічнікі затрымліваюць іх адносна рэдка.

У Беларусі працаваць па канвенцыі CITES пачалі зусім нядаўна, і заканадаўства аб гандлі экзатычнымі жывёламі ў краіне толькі-толькі ствараецца. У гэтай сітуацыі цалкам можна скарыстаць вопыт іншых краін, напрыклад, Італіі. Калі яна далучылася да канвенцыі, у краіне быў зроблены перапіс і рэгістрацыя ўсіх жывёлін, што ахоўваюцца CITES. Звярам, птушкам і гадам былі выдадзены пасведчанні, на падставе якіх мог ажыццяўляцца іх увоз і вываз з краіны. Адзначым адразу, што канвенцыя CITES не носіць забароннага характару, яна хутчэй праследуе функцыі кантролю за рэдкімі жывёламі і іх вытворнымі, што падарожнічаюць з краіны ў краіну. Адна з асноўных праблем, якія ўзнікаюць у гэтым выпадку, — даказаць законнасць набыцця той ці іншай жывёліны, правамернасць выключэння яе з дзікай прыроды. І калі вывезці жывёліну з Беларусі яшчэ так-сяк можна, то праблемы могуць узнікнуць як у краіне прызначэння, так і ў дзяржавах, якія трэба будзе перасякаць транзітам. Паколькі ў краінах еўрапейскага супольніцтва законы на гэты конт значна больш жорсткія, чым у нас, справа можа скончыцца канфіскацыяй любімага звера.

Апошнім часам нярэдка ў камітэт па дазвол на вываз звяртаюцца іншаземцы, якія прыязджаюць у Беларусь на паляванне і ў выпадку, калі яно будзе ўдалым, хочуць павезці з сабою паляўнічыя трафеі. У адрозненне ад нашых грамадзян, яны імкнуцца да поўнага захавання законнасці і афармляюць дакументы яшчэ да таго, як убачаць маркуемую здабычу. Паколькі самі бланкі CITES каштуюць вельмі дорага, нашым спонсарам у гэтай справе стала Англія, якая і выдзеліла грошы на іх выраб.

Іншы раз уражваюць сваёй бясклапотнасцю супрацоўнікі беларускіх авіяагенцтваў, якія, добра ведаючы аб існуючых правілах і забаронах, кантрабандай увозяць у краіну з афрыканскіх краін папугаяў і малпаў, не думаючы, што праз прыматаў у краіну можна завезці СНІД, чуму і іншыя смяротныя хваробы.

Кантрабанда бывае і вельмі нечаканай: увесь мінулы год паступала інфармацыя аб тым, што Еўропу запаланілі часткі бурага мядзведзя — жоўцевыя пузыры, кіпцюры і іншыя органы, якія (уключаючы памёт) выкарыстоўваюцца ў нетрадыцыйнай медыцыне Усходу.

Паколькі на Каспіі з-за браканьерскага адлову ўсур'ёз паўстала пытанне аб выжыванні асятровых, рыбы і вытворныя ад іх у гэтым годзе трапілі ў разрад забароненых да вывазу. Вялікія паступленні кантрабанднай рыбы і ікры на рынкі Еўропы прымусілі Германію першай забіць трывогу, і на сённяшні дзень усе асятровыя і вытворныя ад іх уключаны ў дадатак да CITES. Так што да ўвагі ад'язджаючых: чорную ікру і шашлык з асятра лепш есці дома. Нават калі вам удасца правезці ікру праз нашу мяжу, то праблемы ўзнікнуць у той краіне, куды вы будзеце ўязджаць. Напрыклад, на ўсёй мяжы Швейцарыі ўстаноўлена пяць прапускных пунктаў, куды можна ўехаць на таможны дагляд з узорамі CITES. Калі вы са сваёй ікрой рушыце ў абход, вас могуць павярнуць назад.

А ўвогуле, усім аматарам жывёлін хацелася б даць параду: набывайце праверавых часам катоў і сабак. Паколькі мурзікі і жучкі пакуль далёкія ад занясення ў Чырвоную кнігу, вываз іх не звязаны з вялікай колькасцю дакументаў, сертыфікатаў і дазволаў. Да таго ж, у адрозненне ад ігуаны і мадагаскарскага таракана, іх можна пагладзіць...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ЦУДАТВОРНАЯ ІКОНА





**"Голас Радзімы" пісаў ужо, што ікона Свяціцеля Мікалая Цудатворца, якая некалі была канфіскавана пры спробе вывазу з краіны і захоўвалася ў запасніках музея выратаваных каштоўнасцей, а ў 1990 годзе перададзена ў брэсцкі храм, названы ў гонар гэтага святога, пачала вылучаць цяпло. Словам, пры дотыку да яе можна адчуць цяпло. Цяпер да яе адкрыты доступ, адслужаны малебен Свяціцелю.**

**Свята-Мікалаеўская царква ў Брэсце — адно з самых прыгожых культавых збудаванняў праваслаўя не толькі ў Беларусі. За дзевяноста адзін год свайго існавання храм перажыў многае. Некалькі дзесяткаў гадоў у яго сценах быў дзяржаўны архіў, а ў 1989 годзе будынак зноў перададзены веруючым. Пасля рамонту храм уражвае не толькі знешняй веліччу і архітэктурай, але і ўнутраным аздабленнем, багатым іканапісам. Тут захоўваюцца вядомыя ў праваслаўным свеце святыні — частка дрэва Крыжа Жыватворнага Гасподня, частка камня труны Гасподняй, часцінкі мошчаў прападобнага Яфімія Вялікага, Святога вялікамучаніка лекара Панцеляймона, мучанікаў, урачоў Акакія і Яўстафія, часцінка мошчаў цудатворцаў Феадосія Чарнігаўскага і яго сакос (святое адзенне), перададзеная Рускай праваслаўнай царквой у снежні 1997 года.**

**НА ЗДЫМКАХ: ікона Свяціцеля Мікалая Цудатворца, што вылучае цяпло; Свята-Мікалаеўская царква ў Брэсце.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*

# САМАЯ ВЯЛІКАЯ АСАЛОДА

Шмат цудоўных людзей на зямлі. Кажучы гэтыя словы, я перш за ўсё маю на ўвазе пана Манфрэда Вала. Жыве гэты чалавек у Германіі. Ён за свае грошы запрашае на адпачынак і аздараўленне ў суседнюю Польшчу дзяцей з Дзятлаўшчыны, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Адпачываюць яны, набіраюцца новых сіл у вельмі маляўнічых мясцінах — Ольштыне і Аструдзе.

Вялікі ўклад у гэтую справу ўносіць ксёндз Гуткоўскай парафіі Ольштынскага ваяводства Бернард Калінскі. Дзятлаўцы добра ведаюць гэтага цудоўнага чалавека. Крыху раней ён служыў у Дзятлаўскай парафіі. Дзякуючы Бернарду Калінскаму, дзіцячыя душы цягнуцца да Бога, імкнуцца да чысціні і святла, як кветкі — да сонца. Штогод ксёндз-пробашч дапамагае цікава і змястоўна арганізаваць адпачынак дзяцей у час канікул, клапоціцца, каб яны і добра адпачылі, і папраўіліся.

Для ўсяго, вядома, патрэбны грошы. Па просьбе пана Манфрэда Вала ён прывёз з Бона сто трыццаць канвертаў з грашыма для малазабяспечаных сем'яў. Шэсцьдзесят канвертаў атрымалі жыхары горада Дзятлава, трыццаць было раздадзена ў касцёле гарадскога пасёлка Навапельня і сорак канвертаў — у касцёле вёскі Бердаўка Лідскага раёна. Грашовую дапамогу атрымалі інваліды з дзяцінства, дзеці-сіроты і сем'і, якія маюць у гэтым вострую патрэбу.

— Мы з панам Манфрэдам Валам хочам атрымаць самую лепшую, самую вялікую асалоду, якая даецца людзям у жыцці, — шчыра гаворыць ксёндз Бернард Калінскі. — Яна ў тым, каб дапамагаць іншым. Трэба навучыцца аддаваць людзям усё душэўнае цяпло. Чым больш аддаеш, тым больш маеш. Менавіта так і робяць у цывілізаваных краінах. Такая там мараль і філасофія. Яе "смак" мы з Манфрэдам Валам добра адчулі, калі ўцягнуліся ў дабрачынную працу, дапамагаем іншым і словам, і справай. Вы, беларусы, не падобныя ні на кога. Цягавітыя, добрасумленныя, добразычлівыя, кемлівыя... Гэта самы лепшы капітал. Мы верым у адраджэнне Беларусі. І заўжды рады гэтаму спрыяць, асабліва дзецям.

**Іосіф ЗАЯЦ.**

# «СВЯТЛО КУПАЛАВА ДОМУ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

шы з гісторыяй стварэння музея, дзе галоўная роля належала жонцы, паплечніцы і сябру паэта Уладзіславе Францаўне Луцэвіч, аўтар піша: "У Купалавым Доме штовечар запальваецца святло, як некалі, як заўжды, пакуль на гэтай сядзібе над сінню Свіслачу ветла ўсміхалася людзям і нябёсам шляхетная хата, дзе мысліў і тварыў Паэт".

Мноства экспанатаў: рэчы, кнігі, часопісы, рукапісы, фатаграфіі — узнаўляюць жыццёвы шлях паэта, дапамагаюць уявіць Купалу-чалавека, гаспадара, сябра, мужа і найбольш Купалу-паэта. "З Купалава Дому звяртаюцца да нас напамінам пра ўзлёт крывіцкага духу 1 154 старонкі рукапісаў твораў Паэта, 52 копіі аўтарызаваных машынапісаў з творамі Купалы, друкаваны тэкст на правах рукапісу на 827 старонках, асабістыя дакументы і рэчы, звыш трох тысяч адзінкаў захавання фотаархіва, 180 адзінкаў кіна-, фота-, відэархіва, 6 400 адзінкаў кніжнага фонду, 1 080 з якіх — з творамі Генія".

У музеі створаны мемарыяльныя пакоі, што аднаўляюць абстаноўку кабінета, гасцёўні ў даваенным доме Купалы. Тут працуе 12 перасоўных выстаў, якія расказваюць пра паэта і яго час, тут праводзяцца літаратурныя вечарыны, і ў госці да песняра прыходзяць прадстаўнікі новых пакаленняў беларускіх пісьменнікаў.

У музеі сабрана каля 800 твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што стварылася пры жыцці паэта, альбо былі напісаны на сюжэты Купалавых твораў ці прысвечаны самому песняру.

Невялікая гэта кніжачка — "Святло Купалава Дому" — шчодра ілюстравана фотаздымкамі з розных перыядаў жыцця нашага слаўтага песняра. Прачытаўшы яе, абавязкова пажадаем бліжэй пазнаёміцца з Купалам, больш даведацца пра жыццё Генія, Прарока і проста выдатнага лірычнага Паэта.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# СУСТРЭЧА З САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ

...Творчыя сустрэчы з пісьменнікамі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа — з'ява звычайная. Але ж менавіта гэтая, аб якой пойдзе размова, — асаблівая. У халодны лютаўскі вечар у гасцёўні музея было вельмі ўтульна і шматлюдна. Тут сабраліся сябры і прыхільнікі творчасці беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча з Беласточчыны, каб пабачыцца з ім і павіншаваць яго з выхадам кнігі "Сцяна".

Напісана кніга Сакратам Яновічам яшчэ ў 1977 годзе, у гэты ж час выдадзена ў Польшчы на польскай мове.

Тры гады яна знаходзілася ў выдавецтве "Мастацкая літаратура"... "Але ж добрая кніга не паддаецца ўплыву часу. Яна вечная", — філасофскі заўважыў Сакрат Яновіч.

І вось цяпер яна пабачыла свет на роднай мове ў Беларусі. Прафінансаваў выданне "Сцяны" накладам 1 500 асобнікаў Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Увесь вечар пра гэтага надзвычай цікавага чалавека і яго творчасць расказвалі Адам Мальдзіс, Уладзімір Гніламёдаў, Уладзімір Арлоў, Алег Трусаў, Міхась Шаховіч — паэт з Беласточчыны, які прыехаў разам з Сакратам Яновічам.

"...Калі вы будзеце чытаць мною напісанае і вам нешта не спадабаецца, то ведайце: мне усё роўна. Мяне гэта не цікавіць, паколькі я пішу не для вас, а для сябе. Аднак калі мая лабараторыя цікавая й яшчэ некаму, мне безумоўна прыемна», — так пачаў Сакрат. Ён не казаў нічога незвычайнага, але ўсім хацелася яго слухаць. З гумарам расказваў, як ён працаваў пажарнікам, інжынерам-электрыкам, займаўся боксам.




І яшчэ мы пачулі многа вядомых мудрых жыццёвых ісцін, якія неяк па-новаму ўспрымаліся з вуснаў Сакрата Яновіча.

Сцяна... Гэта перш за ўсё непаразуменне, якое ўзнікае не па волі асобных людзей. Але мы спадзяемся, што паміж беларусамі, якія жывуць у сваёй краіне-маці, і беларусамі, што апынуліся за не межамі волю лёсу, ніколі не ўзнікне сцяна. І сустрэчы паміж імі стануць традыцыйнымі...

Значная частка тыражу накіравана ў Польшчу. Праз бібліятэкі яна знойдзе чытача ў Беларусі, а хто зацікавіцца з беларускіх арганізацый яшчэ, — пішыце, абавязкова дашлем...

**Ніна ПЕТУХОВА.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

# СВЯТКАВАЛІ «МАСЛЕНІЦУ»

У апошні дзень зімы ў беларускай школе імя Ф. Скарыны ў Вільні святкавалі "Масленіцу". Яна святкуецца ў нас кожны год, ужо стала традыцыяй. "Масленіца" — старажытнае славянскае і першае веснавое свята завяршае зіму і ўслаўляе прыход вясны, сонца, цяпла, адзначаецца за 45 дзён да Вялікадня. Свята асаблівай весялосці, жартаў, гульняў, забаў. Абавязкова трэба пакатацца на вазах, павазіць чучала зімы ды без жалю развітацца з ім да наступных халадоў. Але асаблівы сімвал "Масленіцы" — бліны трэба спячы круглыя, як само сонейка. Падаюцца бліны з тварагом, смятанай, варэннем, маслам. Абавязкова запрашалі гасцей на масленічныя бліны, жадалі ім здароўя і прадаўжэння жыцця.

На свяце ў школе быў госць — ансамбль "Кондравас". Удзельнікі яго добра "адпрацавалі" за бліны. Працягнуў святочную праграму хор "Сябрына", а завяршылі гаспадары — вучні школы. Іх малюнкамі ўпрыгожаны зала і калідор, яны зрабілі маскі, апрануліся ў касцюмы казачных герояў, тут былі і цыганы, і клоуны, асабліва забаўныя, і вельмі прыгожая "вясна". Гучалі песні, смех, жарты, розныя смешныя гісторыі з жыцця школы, загадкі, былі танцы і карагоды, гульні.

Нашыя продкі святкавалі "Масленіцу" цэлы тыдзень і таму яе называлі "шырокай". Быў такі звычай: у апошні дзень "Масленіцы" развітвацца з дрэннымі ўчынкамі і прасіць прабачэння. Гаспадар садзіўся на кут у строгім і набожным настроі. Да яго падыходзілі па чарзе родныя, кланяліся да зямлі і прасілі прабачэння, потым, наадварот, прасіў прабачэння гаспадар. У гэтым годзе ў школе ўспомнілі цудоўны, даўні добры звычай. Спачатку вучні і настаўнікі прасілі прабачэння ў адміністрацыі, потым — адміністрацыя ў вучняў. Напрыканцы без жалю спалілі чучала, а разам і дрэнныя адзнакі і ўчынкі, паклікалі вясну. І яна прыйшла з цёплым надвор'ем і дажджом у дзень святкавання. Было весела, радасна, усе былі ў добрым настроі, спявалі:

**"Мы на горачцы пабывалі-**
**пабывалі,**
**Масленку сустракалі-сустракалі,**
**Сырам гару набівалі-набівалі,**
**Маслам нару палівалі-палівалі.**
**Мы думалі: масленкі сем**
**нядзеляк-сем нядзеляк,**
**Ажно масленкі сем дзянёчкаў,**
**сем дзянёчкаў.**
**Нас масленка**
**абманіла-абманіла,**
**На сем нядзель паста**
**пасадзіла-пасадзіла".**

Потым накіраваліся ў школьную сталоўку, на масленічныя бліны. Ізноў жарты, смех, песні.

Вось так весела, радасна развіталіся з зімой да наступных халадоў.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.

*ЯГО ПОМНЯЦЬ ДОБРЫМ І СПАГАДЛІВЫМ*

# З ГІСТОРЫІ ЖЫЦЦЯ «НАШАНІЎЦА»

Прайшло ўжо шмат гадоў з таго дня, калі ў Вільні пачала выдавацца беларуская газета "Наша ніва". Але нават і цяпер, у канцы XX стагоддзя, далёка не ўсе ў Беларусі ведаюць імёны першых "нашаніўцаў". Адным з іх быў Эдвард Будзька. У 1906—1908 гадах ён друкаваў на старонках газеты свае вершы, байкі, прысвечаныя не толькі цяжкай долі беларускага мужыка, а і больш складаным, філасофскім пытанням — напрыклад, развіццю таленту (байка "Шпак"). Вось байка "Птушкі ў клетцы", што была падпісана ў "Нашай ніве" імем "Эдзюк Будзька":

**Маладзенькі чыжок**
**У старога спытаў:**
**— Па чым плачаш, дружок!**
**Што нявесел так стаў!**

**Як у клетцы цяпер**
**Маем выгаду мы,**
**Дык на полі, павер,**
**Не мог лепшай мець ты!**

**Стары гукнуў яму:**
**— Што ты кажаш! каму!!**
**Ты радзіўся тут, знаць, —**
**І табе даравацъ, —**

**Я ж на волі век зжыў,**
**Вольным быў, —**
**не тужыў!**
**Што у клетцы — знай,**
**вер—**
**Па ТЫМ плачу цяпер...**

Як бачым, малады пісьменнік не быў пазбаўлены творчых здольнасцей. Гэта пацвердзіла і яго далейшая біяграфія...

А нарадзіўся Эдвард Будзька 22 сакавіка 1882 года ў мястэчку Будслаў, якое цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Вілейскага раёна Мінскай вобласці. Паходзіў з сялянскай сям'і, прычым адзін з яго сваякоў быў мясцовым святаром. Скончыў пачатковую школу, у 1900 годзе паступіў у Рыжскі політэхнічны інстытут. Вышэйшая адукацыя Эдварда, на жаль, засталася незавершанай: з-за адсутнасці сродкаў хлопец вымушаны быў кінуць вучобу. Між тым рыжане-беларусы згадвалі яго добрым словам, бо менавіта ён удзельнічаў у заснаванні ў горадзе беларускай калоніі.

Э. Будзька пераехаў у Вільню, дзе жыў у 1905—1917 гадах. Уваходзячы ў склад рэдкалегіі беларускіх календароў, газеты "Наша ніва", ён супрацоўнічаў з газетай "Дзянніца" — пазней "Наша будучыня", — што выдавалася тады ў Санкт-Пецярбургу. Потым быў рэдактарам-выдаўцом "Дзянніцы", а таксама віленскай газеты "Беларуская думка" (у 1920 годзе), друкаваўся ў польскай перыёдыцы.

Пісаў ён у тыя гады многа, паспеў выявіць і сцвердзіць сябе і ў паэзіі, і ў журналістыцы. Тэмы, якія хвалявалі Э. Будзьку-публіцыста, — гэта побыт жыхароў роднага мястэчка, іншых гарадоў, навіны развіцця кааперацыі. Займаўся Эдвард і грамадскай дзейнасцю — распаўсюджваннем газет, кніг, арганізацыяй кааператываў. У снежні 1917 года ён прымаў удзел у працы І Усебеларускага кангрэса, быў абраны ў яго кіраўніцтва (раду).

Мусіць, галоўная з заслуг Э. Будзькі — стварэнне ўвосень 1917 года Будслаўскай беларускай гімназіі. У сябе на радзіме Будзька заснаваў выдатную адукацыйную ўстанову, якая праіснавала цэлых два гады (была закрыта пры паляках). Усе навучальныя дысцыпліны ў ёй выкладаліся па-беларуску. Пры гімназіі дзейнічалі вячэрнія агульнаадукацыйныя курсы для дарослых, гурткі — літаратурны, драматычны, танцавальны. Рэгулярна ставіліся спектаклі, адбываліся разнастайныя вечарыны; выходзіў нават свой часопіс "Светач".

Пасля закрыцця гімназіі Э. Будзька зноў перабраўся ў Вільню, з 1921 года пасяліўся ўжо ў Коўне (сучасным Каўнасе). Працягваючы грамадскую і культурна-асветніцкую працу, арганізаваў у Дзвінску ў 1921—1922 гадах настаўніцкія курсы, стварыў там жа таварыства "Бацькаўшчына", збіраўся адкрыць чарговую беларускую гімназію. У 1939 годзе Эдвард вярнуўся ў родны Будслаў, а пасля ўз'яднання Беларусі ў верасні гэтага ж года пачаў працаваць бухгалтарам у Вілейцы. Вядома, што ў 1940 годзе Э. Будзька наведаў Мінск — сустракаўся з калегамі па "нашаніўскіх" часах Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем.

У гады Вялікай Айчыннай вайны быў інспектарам Мінскай гарадской управы, пэўны час жыў у Барановічах. З 1944 года з'яўляўся эмігрантам: краінамі яго прыстанку былі Польшча, Германія, Злучаныя Штаты Амерыкі. Не пакідаў грамадскай дзейнасці аж да сваёй смерці 14 жніўня 1958 года. Трое Эдвардавых дзяцей — Людвіка Бяленіс, Ірэна Пануцэвіч, Часлаў Будзька — заўсёды спрыялі пашырэнню бацькавых спраў, дапамагаючы парадай, асабістым удзелам, сяброўскай падтрымкай.

Тыя, хто блізка ведаў Эдварда Будзьку, адзначаюць адметныя рысы яго характару: энергічнасць, уменне прапаноўваць новыя ідэі, чуласць і дабрыню. Такім ён быў, такім яго захоўваюць сэрцы шчырых беларусаў-патрыётаў.

**Святлана ЯВАР.**

# ВЯЛІКІ БЕЛАРУС СІБІРЫ



Прайшоў год (10 студзеня 1997 года) з дня смерці Валянціна Капцюга — выдатнага вучонага-хіміка, арганізатара навукі і адукацыі, грамадскага і палітычнага дзеяча Расіі.

Ён быў навуковым супрацоўнікам, пазней дырэктарам Новасібірскага інстытута арганічнай хіміі, рэктарам Новасібірскага дзяржаўнага універсітэта і 17 гадоў — старшынёй Сібірскага аддзялення АН СССР (пазней РАН) і віцэ-прэзідэнтам РАН.

В. Капцюг быў віцэ-прэзідэнтам, потым прэзідэнтам Міжнароднага саюза па тэарэтычнай і прыкладной хіміі, віцэ-прэзідэнтам Навуковага камітэта па праблемах навакольнага асяроддзя Міжнароднага савета навуковых саюзаў, членам Кансультатыўнага савета высокага ўзроўню па ўстойліваму развіццю пры Генеральным сакратары ААН.

Замежны член акадэмій навук Беларусі, Балгарыі, Манголіі, Індыі, Чэхаславакіі.

Лаўрэат Ленінскай прэміі, міжнароднай прэміі імя А. Карпінскага, Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер многіх ордэнаў, ганаровы грамадзянін горада Новасібірска.

Валянцін Капцюг нарадзіўся 9 чэрвеня 1931 года ў беларускай сям'і ў г. Юхнаве Калужскай вобласці. Бацька працаваў начальнікам аддзялення сувязі, маці — на тэлеграфе. У 1935 годзе сям'я пераехала ў г. Смаленск. Бацька ў 1938 годзе быў арыштаваны і расстраляны (рэабілітаваны ў 1956 годзе). У 1941 годзе сям'я (ён, старэйшы брат Уладзімір і маці) эвакуіраваліся ў г. Самарканд. У 1944 годзе на фронце загінуў брат Уладзімір. У Самаркандзе ў 1949 годзе Валянцін Капцюг скончыў сярэднюю школу з залатым медалём і паступіў у Маскоўскі хіміка-тэхналагічны інстытут імя Д. Мендзялеева. Пасля заканчэння інстытута і атрымання дыплома з адзнакай быў пакінуты ў аспірантуры інстытута.

У 1959 годзе Валянцін Капцюг пераехаў у Новасібірск і прысвяціў сваё жыццё навуцы ў Сібіры.

Пахаваны Валянцін Капцюг у Новасібірску. На Байкале яго імя носіць карабель. У Новасібірскім акадэмгарадку адна з вуліц названа праспектам Акадэміка Капцюга.

**Уладзімір ГАЛУЗА,**
**старшыня таварыства "Беларусы Сібіры".**
г. Новасібірск.

# ПАМІЖ ФРАНТАМІ

## БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІНАХ ПАЧАТКУ 1920 ГОДА

У адрозненне ад папярэдняга перыяду, у канцы 1919 — пачатку 1920 гадоў назіралася актывізацыя тых сіл у беларускім руху, якія бачылі будучыню Беларусі па-за саюзам з Польшчай і РСФСР. Арганізацыйным цэнтрам "трэцяй сілы" сталі Народная рада і ўрад БНР на чале з В. Ластоўскім. В. Ластоўскі не падзяляў знешнепалітычных поглядаў, якія выказвала пераважная большасць членаў БПС-Р, нягледзячы на фармальную прыналежнасць да гэтай партыі. Ён лічыў, што стварэнне беларускай дзяржаўнасці магчыма галоўным чынам пры падтрымцы з боку вядучых дзяржаў Захаду і новых незалежных дзяржаў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі (пераважна краін Балтыі), і рабіў упор на развіццё сувязей з гэтымі краінамі. У сувязі з гэтым урад Ластоўскага надаваў значную ўвагу дзейнасці замежных прадстаўніцтваў БНР, патрабуючы ад іх актывізаваць дзейнасць па абароне беларускіх інтарэсаў.

Новая палітычная лінія ўрада БНР адпавядала палажэнням, якія змяшчаліся ў загадзе шэфа Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі К. Езавітава, які быў складзены ў пачатку студзеня 1920 года. У адпаведнасці з загадам, усе беларускія дзяржаўныя ўстановы і арганізацыі за мяжой павінны былі дамагацца рэалізацыі наступных палажэнняў:

"1) Беларусь не можа разглядацца асобна ад Прыбалтыкі, бо арганічна звязана з ёю; 2) Сувязь з Польшчай — штучная і нежыццяздольная мера, якая супярэчыць беларускаму народу і не дае Беларусі неабходных элементаў для эканамічнага дабрабыту; 3) Беларусь не павінна заставацца ў сферы французскага ўплыву і павінна перайсці ў сферу ўплыву англійскага ці амерыканскага; 4) Беларусь — найбольш выгадны плацдарм для наступлення на бальшавіцкую Маскву, калі ідэя падобнага паходу кім-небудзь яшчэ раздзяляецца, бо яна яшчэ не думае мірыцца з бальшавікамі, а яе мяжа ў 280 кіламетрах ад Масквы; 5) Беларусь — лес, пянька, шкіпінар, запалкі, шкло, скуры, лён, масла, гусі, сена, бульба, шпірт і цукар; 6) Беларусь прагліне ў неабмежаванай колькасці машыны, сукны, маторы, электрычныя правады, лямпы, прыборы, інструменты, медыкаменты; 7) Беларусь — краіна індывідуальнай гаспадаркі па еўрапейскаму ўзору, а таму рэзка адрозніваецца ад вялікарускай абшчыны;.. 8) Калі ў адносінах да многіх нацыянальнасцей прымяняўся прынцып прызнання de facto, то Беларусь павінна быць адразу і перш за ўсё прызнана de jure".

9 студзеня загад быў разасланы па ўсіх дыпламатычных установах БНР, пасля чаго пачалася яго практычная рэалізацыя. Найбольш актыўна дзейнічала ў гэтым напрамку Вайскова-дыпламатычная місія БНР у Латвіі і Эстоніі. Ужо ў снежні 1919 года па заданню Езавітава генерал Карчак-Крыніца-Васількоўскі пачаў перагаворы з урадам Фінляндыі і прадстаўнікамі ваенных місій Антанты ў Прыбалтыцы, пераконваючы іх у неабходнасці прызнання незалежнасці Беларусі і дапамогі ў арганізацыі беларускай арміі. Інфармацыя пра Беларусь зацікавіла прадстаўнікоў Антанты. Яны запэўнілі Васількоўскага, што яна будзе даведзена да ведама адпаведных урадавых структур, і параілі прадстаўнікам Вайскова-дыпламатычнай місіі ўстанавіць больш цесны кантакт з урадам БНР і іншымі беларускімі арганізацыямі на месцах і дабіцца падтрымкі ўрадаў Латвіі і Эстоніі ў справе стварэння самастойнай Беларускай дзяржавы.

Выконваючы гэтую параду, якая насіла неафіцыйны характар, беларускія прадстаўнікі сустрэліся з міністрам замежных спраў Эстоніі. Міністр пажадаў, каб беларусы афіцыйна звярнуліся да ўрада Эстоніі. Прыхільна паставіўся да беларусаў і фінскі ўрад, прадстаўнікі якога таксама пажадалі мець афіцыйны зварот з боку ўрада БНР. Рэкамендацыі ўрадавых колаў Эстоніі і Фінляндыі былі выкананы: у даныя краіны былі накіраваны паўнамоцныя прадстаўнікі БНР. 7 красавіка 1920 года ўрад БНР афіцыйна прызнаў незалежнасць Эстоніі, выказаўшы спадзяванне, што "народы эстонскі і беларускі заўсёды будуць знаходзіцца ў самых дружных і добрасуседскіх адносінах".

Менш выніковымі былі для беларусаў сустрэчы з латышамі. Міністр замежных спраў Латвіі адмовіўся прыняць беларусаў, бо супраць такой сустрэчы выступіла Польшча. Аднак, нягледзячы на гэтую часовую няўдачу, прадстаўнікі БНР працягвалі сваю дзейнасць у гэтай краіне. Значнай падзеяй у беларуска-латвійскіх адносінах стала правядзенне 20 сакавіка 1920 года ў Рызе пасяджэння Беларуска-латвійскай памежнай камісіі. Беларускі бок на пасяджэнні прадстаўлялі І. Чарапук, Г. Казячы, Б. Шымковіч, латвійскі — Ю. Фельдман і А. Швабэ. Падчас дыскусіі латышы патрабавалі ад беларусаў згоды на ўключэнне Дзвінска ў склад Латвіі. Беларусы згоды не далі, заявіўшы, што гэтае спрэчнае пытанне можа быць вырашана толькі шляхам выяўлення волі самога насельніцтва спрэчных тэрыторый. У рэшце рэшт удзельнікі перагавораў вырашылі адкласці спрэчкі да чарговага пасяджэння камісіі. Па выніках перагавораў былі падпісаны Асновы размежавання паміж БНР і Латвіяй, якія зыходзілі з неабходнасці ўстанавіць з боку Беларусі і Латвіі бясспрэчна этнаграфічную зону; вызначыць спрэчную тэрыторыю ў адпаведнасці з нацыянальна-этнаграфічным прынцыпам, а пытанні адносна прыналежнасці тых ці іншых тэрыторый вырашыць шляхам народнага галасавання; кіравацца ў этнаграфічных карэктывах прынцыпам кампенсацыі па ўзаемнаму пагадненню; вырашаць спрэчныя пытанні, па якіх бакі не здолелі дагаварыцца, пры дапамозе міжнароднага суда. Вынікі перагавораў былі з задавальненнем успрыняты кіраўніцтвам БНР і зацверджаны ім.

Пэўныя складанасці ў канцы 1919 года назіраліся ў беларуска-літоўскіх адносінах. Прычынай таму былі разыходжанні адносна прыналежнасці зямель "гістарычнай Літвы" з цэнтрам у Вільні.

І ўсё ж сходныя знешнепалітычныя інтарэсы беларусаў і літоўцаў, у прыватнасці, іх сумесная барацьба супраць дамаганняў Польшчы на землі "гістарычнай Літвы", спрыялі наладжванню супрацоўніцтва паміж урадам БНР і ўрадам Літвы. У студзені 1920 года ўрад БНР лічыў свае адносіны з Літвой сяброўскімі. На тэрыторыі Літвы дзейнічалі беларускія вайсковыя часці, у складзе літоўскага ўрада захоўвалася міністэрства па беларускіх справах (да красавіка 1920 года яго ўзначальваў Я. Варонка, з красавіка 1920 года Д. Сямашка). У лютым 1920 года адносіны паміж кіраўнікамі Літвы і БНР палепшыліся настолькі, што Народная рада і ўрад БНР палічылі мэтазгодным пераехаць у Коўна (Каўнас).

Важным напрамкам дзейнасці ўрада БНР на чале з В. Ластоўскім было развіццё кантактаў з вядучымі сусветнымі дзяржавамі. 7 студзеня 1920 года ўрад БНР накіраваў міністру замежных спраў Вялікабрытаніі Дж. Керзану і дзяржсакратару ЗША Д. Лансінгу мемарандумы, у якіх змяшчаліся звесткі пра становішча Беларусі і яе ўзаемаадносіны з памежнымі дзяржавамі і народамі. У мемарандумах адзначалася, што знешнепалітычная праграма Беларусі прадугледжвае салідарнасць і сумесную работу з новымі дзяржавамі, магчымасць федэрыравання з суседзямі на аснове добраахвотнай згоды і неабходнасць прызнання незалежнасці Беларусі іншымі дзяржавамі. У абодвух зваротах змяшчалася просьба неадкладна прызнаць незалежнасць Беларусі. У звароце да ўрада Вялікабрытаніі дадаткова змяшчалася просьба ўключыць Беларусь у сферу англійскага ўплыву разам з дзяржавамі Балтыі. Да ўрада ЗША кіраўнікі БНР звярталіся з просьбай прыняць паўнамоцных прадстаўнікоў БНР, аказаць беларусам падтрымку ў барацьбе супраць бальшавізму, пазбавіць іх ад пагрозы быць далучанымі да Польшчы і накіраваць на Беларусь спецыяльную камісію па расследаванню гвалтоўных дзеянняў палякаў у адносінах да беларускага насельніцтва.

Метад зваротаў да вышэйшых службовых асоб замежных дзяржаў выкарыстоўваўся дзеячамі БНР і ў далейшым. 14 студзеня 1920 года ўрад БНР накіраваў пасланні міністрам замежных спраў Францыі, Вялікабрытаніі і ЗША, а таксама Старшыні Вярхоўнага савета Антанты. У даных зваротах змяшчаліся патрабаванні, падобныя да тых, што прысутнічалі ў мемарандумах БНР ад 7 студзеня 1920 года. 20 студзеня 1920 года ўрад БНР накіраваў мемарандум з просьбай аб прызнанні ўрадам Даніі, Швецыі і Нарвегіі. 23 студзеня падобная просьба была накіравана ўрадам Японіі і Швейцарыі. 27 лютага 1920 года ўрад БНР звярнуўся да швейцарскага ўрада з нотай, у якой звяртаў увагу на недапушчальнасць правядзення палякамі "плебісцыту" на тэрыторыі Беларусі.

Трывалыя кантакты былі ўстаноўлены з дыпламатычнымі ўстановамі замежных дзяржаў у Прыбалтыцы, куды таксама накіроўваліся пратэсты адносна польскай палітыкі на Беларусі. Напрыклад, шэф Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР 9 лютага 1920 года звярнуўся да кіраўнікоў дыпламатычных місій Вялікабрытаніі і ЗША ў Прыбалтыцы з пратэстам супраць польскага "плебісцыту" на Беларусі, звярнуўшы іх увагу на тое, што плебісцыт ва ўмовах акупацыі з'яўляецца парушэннем волі беларускага насельніцтва, выказанай у пастановах І Усебеларускага кангрэса, можа прывесці "да многіх несправядлівасцей" і не выявіць волі "тэрарызаванага палякамі беларускага насельніцтва".

Важнае месца ў адносінах БНР з краінамі Еўропы займалі адносіны з Германіяй. Нягледзячы на тое, што Германія была пераможанай дзяржавай і яе магчымасць весці самастойную знешнюю палітыку была істотна абмежавана, прадстаўнікі БНР разглядалі яе як краіну, што была ў стане скласці супрацьвагу "імперыялістычным" памкненням Польшчы і Расіі. Супрацоўніцтву паміж Германіяй і Беларуссю спрыялі наладжаныя з 1918 года кантакты паміж нямецкімі і беларускімі палітыкамі. У данясенні за 21 лютага 1920 года прадстаўнік БНР у Берліне даводзіў да ведама ўрада, што "справа тутака ідзе найбольш сур'ёзна, чым у іншых краінах". У канцы лютага 1920 года ўрад БНР падрыхтаваў зварот да ўрада Германіі з заклікам прызнаць незалежнасць Беларусі, прыняць беларускага прадстаўніка, прызнаць беларускія дыпламатычныя пашпарты ў якасні пашпартаў замежнай дзяржавы і не перашкаджаць уезду і выезду грамадзян з пашпартамі БНР.

Як і ў папярэдні перыяд, маладая беларуская дыпламатыя выкарыстоўвала трыбуну міжнародных канферэнцый для выкладання сваёй пазіцыі па пытаннях палітычнага ўладкавання Усходняй Еўропы. Іх асноўную ўвагу прыцягвала Парыжская мірная канферэнцыя, а пасля яе афіцыйнага завяршэння (21 студзеня 1920 года) установы, створаныя падчас яе работы (галоўным чынам Ліга нацый і Савет (канферэнцыя) паслоў). З данымі арганізацыямі быў звязаны міністр замежных спраў БНР і прадстаўнік урада БНР у Парыжы Е. Ладноў. У сакавіку 1920 года ён накіраваў Старшыні Савета паслоў ад імя ўрада БНР дзве ноты, у якіх выказваўся пратэст супраць палітыкі Польшчы ў адносінах да Беларусі.

Выкарыстоўвалася і трыбуна рэгіянальных канферэнцый. Так, для прапаганды ідэй незалежнасці Беларусі была выкарыстана трыбуна 2-й канферэнцыі сацыялістычных партый Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Польшчы і Беларусі, якая адбылася ў Таліне 29—30 сакавіка 1920 года. На канферэнцыі выступіў з прамовай І. Чарапук, які патрабаваў не дапусціць падзелу Беларусі паміж Польшчай і Расіяй і рэзка крытыкаваў польскую палітыку ў адносінах да беларускага насельніцтва.

Змагаючыся за дыпламатычнае прызнанне незалежнасці Беларусі, кіруючыя органы БНР надавалі значную ўвагу праблеме беларускага ваеннага будаўніцтва. У лістападзе 1919 года Езавітаў сустрэўся ў Юр'еве (Тарту) з генералам С. Булак-Балаховічам і прапанаваў яму перайсці на беларускую службу (часці, якімі камандаваў Балаховіч, уваходзілі ў склад арміі генерала Юдзеніча). Балаховіч прыняў прапанову шэфа Вайскова-дыпламатычнай місіі, падкрэсліўшы, што ідэя барацьбы за незалежную Беларусь яму куды бліжэй, чым удзел у пачыннях "рускіх контррэвалюцыйных генералаў". У канцы 1919 года пераход Балаховіча ў падпарадкаванне БНР быў афармлены юрыдычна праз консульства БНР у Рызе. 20 студзеня 1920 года войска, якім камандаваў Балаховіч, было ўключана ў склад арміі БНР у якасці "Асобнага атрада". У канцы студзеня 1920 года "Асобны атрад", які налічваў каля 3,5 тысячы чалавек, займаў участак фронту паміж эстонскай і латвійскай арміямі каля г. Ізборска. Перад атрадам стаяла задача прайсці на Апочку — Невель — Себеж — Полацк — Дрысу для стварэння тэрыторыі, з якой магло б пачацца адраджэнне незалежнай Беларускай дзяржавы.

Кіраўніцтва БНР выкарыстала факт пераходу войск Балаховіча ў прапагандысцкіх мэтах, паколькі гэта сведчыла пра тое, што ўрад БНР мае падтрымку з боку ваенных. Так, у лісце ад 4 лютага 1920 года саветнік Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР па вайсковых справах генерал-маёр П. Вэнт пісаў Балаховічу: "Па атрыманых мной газетам і лістам з усіх бакоў... я бачу, што аб вашым пераходзе да нас ведае ўжо ўся Еўропа і ўся Беларусь. Усе чакаюць беларусы як "бацьку-збавіцеля" і ўжо зроблена ўсё, каб падтрымаць ваш атрад грашыма. Цяперака трэба раз назаўжды пастанавіць:

1) што лічныя счоты з генералам Юдзенічам і Паўночна-заходняй арміяй Вамі скончаны;

2) што ніякіх адносін да іх Вы не маеце;

3) што ўмешвацца ў іх звязкі Вам не трэба;

4) што набіраць якіх-папала... у атрад расійскіх афіцэраў таксама не трэба;

5) што лепей у атрадзе будзе 500 праўдзівых беларусаў, чым 5 000 усялякіх прахадзімцаў.

Роля Ваша вельмі вялікая ў нашай гісторыі і нашай справе, а таму мы зробім усё, каб Ваша імя грымела на Бацькаўшчыне. Вы ж трымайце сябе так, каб ніводзін правакатар не мог сказаць, што Вы расійскі генерал, і глядзіце больш у Петраград і Маскву, чым у родны Полацк і Менск".

Аднак эйфарыя з прычыны значнага павелічэння арміі БНР хутка прайшла. Войска Балаховіча добра змагалася супраць савецкіх войск (аб гэтым сведчыць рэакцыя Леніна, які ў адных са сваіх запісак пазначыў, што нядрэнна было б "на плячах" Балаховіча ўварвацца ў Латвію і Эстляндыю і павесіць 100—1 000 іх чыноўнікаў і багацеяў, пакараўшы такім чынам за падтрымку генерала, аднак яму неабходны былі зброя, боепрыпасы, амуніцыя, харчаванне і грошы, чаго ўрад БНР не меў).

У пачатку 1920 года Езавітаў звярнуўся з просьбай дапамагчы ў падтрымцы беларускай арміі да прадстаўнікоў ваенных місій Вялікабрытаніі, Францыі і ЗША ў Прыбалтыцы, а таксама да камандавання брытанскай эскадры, якая знаходзілася ў Таліне. Рэакцыя прадстаўнікоў еўрапейскіх краін на звароты місіі БНР была рознай. Брытанцы ўспрынялі інфармацыю са спачуваннем, але выказалі пажаданне, каб неабходная падтрымка аказвалася на аснове адпаведнага дагавора з урадам БНР. Французы параілі ўрэгуляваць адносіны з Польшчай. Больш прадукцыйнымі былі вынікі перагавораў з амерыканцамі, якія прадаставілі беларусам пэўную колькасць медыкаментаў, кансерваў, коўдраў, ложкаў і бялізны для шпіталя "Асобнага атрада" праз рыжскую місію Чырвонага Крыжа. Аднак для паспяховага вядзення баявых дзеянняў гэтая дапамога была недастатковай.

Адсутнасць рэальнай падтрымкі абвастрыла адносіны паміж Балаховічам і прадстаўнікамі БНР у Прыбалтыцы. На некаторы час напружанасць дапамагла зняць дагаворанасць Езавітава з эстонскім камандаваннем аб грашовай і матэрыяльнай падтрымцы часцей Балаховіча да моманту, пакуль гэта зможа рэальна зрабіць урад БНР (сумы, якія эстонцы затрачвалі на ўтрыманне Балаховіча, разглядаліся як пазыка, прадастаўленая ўраду БНР, і падлягалі вяртанню ў будучыні), аднак у адпаведнасці з Юр'еўскім мірным дагаворам Эстонія абавязалася распусціць антысавецкія фарміраванні на сваёй тэрыторыі і спыніла аказанне падтрымкі "Асобнаму атраду БНР". Не палепшылі становішча беларускіх часцей і нетрадыцыйныя метады ўтрымання, як, напрыклад, выпуск спецыяльнай паштовай маркі "Асобны атрад БНР" у лютым 1920 года.

Рознагалоссі паміж Балаховічам і кіраўніцтвам БНР былі выкарыстаны палякамі, якія пільна сачылі за дзейнасцю генерала. У канцы студзеня 1920 года ў Рызе адбылася сустрэча Балаховіча з польскім ваенным аташэ паручнікам Мышкоўскім, які прапанаваў генералу стаць на чале беларускіх атрадаў, што ствараліся ў Мінску з восені 1919 года. Таксама польскі прадстаўнік паабяцаў Балаховічу грашовую пазыку на льготных умовах. Паразважаўшы, Балаховіч вырашыў прыняць прапанову. Магчыма, пад яго ўздзеяннем Езавітаў 8 лютага 1920 года звярнуўся да Пілсудскага з просьбай аб пераводзе "Асобнага атрада БНР" на левы фланг польскай арміі. Шэф Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР лічыў, што канчатковыя ўмовы такога пагаднення вызначацца на перагаворах паміж галоўным камандаваннем польскай арміі, галоўнакамандуючым беларускімі часцямі ў Мінску палкоўнікам І. Канапацкім, урадам БНР і Балаховічам. Аднак Балаховіч не стаў чакаць вынікаў такіх перагавораў і 23 лютага падпісаў у Рызе пагадненне з польскай ваеннай місіяй аб сумеснай барацьбе супраць бальшавікоў. 14 сакавіка "Асобны атрад БНР" пераправіўся на левы бераг Заходняй Дзвіны, які кантралявалі палякі, і накіраваўся ў заходнюю Беларусь. Пасля пераФарміравання ў спецыяльную групу (накшталт дывізіі), якое адбылося ў Брэсце-Літоўскім, часці Балаховіча ўвайшлі ў склад Палескай групы польскіх войск і былі размешчаны на лініі Люблін — Брэст-Літоўскі — Пінск.

Пераход "Асобнага атрада" на бок палякаў стаў сур'ёзным ударам па прэстыжу БНР. Увесну 1920 года ў распараджэнні ўрада БНР на чале з Ластоўскім знаходзіўся толькі адзін беларускі батальён пад камандаваннем маёра А. Ружанца-Ружанцава, які падпарадкаваўся літоўскаму ваеннаму камандаванню. Яўны недахоп ваеннай сілы вымусіў урад БНР зноў засяродзіцца на пераважна дыпламатычных сродках дасягнення запаветнай мэты — незалежнасці Беларусі.

Характарызуючы дыпламатычную дзейнасць БНР канца 1919 — пачатку 1920 гадоў, нельга не адзначыць, што, як і ў больш ранні перыяд, яе рэзультатыўнасць зніжалі рознагалоссі паміж дзеячамі беларускага нацыянальнага руху. Так, надзвычай негатыўныя вынікі для змагароў за незалежнасць Беларусі меў раскол у Радзе БНР у снежні 1919 года. Як Народная, так і Найвышэйшая рады БНР прэтэндавалі на адзіна правамоцнае прадстаўніцтва інтарэсаў беларускага народа, рассылаючы па дыпламатычных установах БНР загады супрацьлеглага зместу. У сувязі з гэтым здаралася, што асобы, якія прадстаўлялі БНР за мяжой, давалі сваім партнёрам па перагаворах недасканалую інфармацыю аб становішчы органаў БНР і напрамках іх дзейнасці. Вялікі канфуз, напрыклад, адбыўся ў студзені 1920 года, калі шэф Вайскова-дыпламатычнай місіі не змог даць прадстаўнікам ваеннай місіі Вялікабрытаніі дакладнага адрасу знаходжання ўрада БНР і гэта стала прычынай зрыву вельмі перспектыўных перагавораў.

Недахоп адпаведных дакументаў не дазваляе мець дакладнае ўяўленне пра рэакцыю кіраўнікоў замежных дзяржаў на звароты органаў БНР. Магчыма, такія звароты былі праігнараваны, магчыма ж урад БНР атрымаў адказы, падобныя да таго, што прыслаў урад Даніі (у дацкім пасланні канстатавалася немагчымасць прызнання БНР у сувязі з неўрэгуляванасцю яе прававога статуса). Аднак бясспрэчным было тое, што дзеячы БНР, нягледзячы на пэўныя поспехі ў развіцці кантактаў з новымі незалежнымі дзяржавамі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі, не змаглі дабіцца галоўнага — дыпламатычнага прызнання незалежнасці Беларусі ў выглядзе БНР. Як і ў папярэдні перыяд, вядучыя дзяржавы Еўропы і свету ставіліся да факта існавання беларускай дзяржаўнасці з недаверам і падазронасцю і ігнаравалі звароты кіраўнікоў БНР. Часам прыхільнікаў беларускай незалежнасці сустракалі са спачуваннем, аднак гэтае спачуванне не набывала юрыдычных ці матэрыяльных форм.

Між тым з канца сакавіка 1920 года зацішша на савецка-польскім фронце ўсё больш нагадвала зацішша перад бурай. Дыпламатычныя перагаворы паміж Польшчай і Савецкай Расіяй ператварыліся ў фармальнасць, якая нікога ні да чога не абавязвала. 27 сакавіка 1920 года Патэк накіраваў Чычэрыну радыёграму, у якой паведаміў пра гатоўнасць Польшчы з 10 красавіка пачаць мірныя перагаворы ў беларускім мястэчку Барысаве. У сувязі з гэтым кіраўнікам РСФСР прапаноўвалася спыніць баявыя дзеянні ў раёне Барысава за 24 гадзіны да прыбыцця савецкіх упаўнаважаных і за 1 гадзіну да перасячэння імі лініі польскіх умацаванняў па чыгунцы Мінск — Смаленск. Прапанова спыніць баявыя дзеянні ў раёне Барысава пазбаўляла Чырвоную Армію магчымасці нанясення ўдару на Заходнім фронце ў выпадку актывізацыі ўзброенага супрацьстаяння з Польшчай, на што кіраўніцтва Савецкай Расіі пагадзіцца не магло. 28 сакавіка 1920 года нарком па замежных справах РСФСР накіраваў польскаму ўраду чарговую дыпламатычную ноту, дзе настойваў на спыненні баявых дзеянняў на працягу ўсяго савецка-польскага фронту і прапаноўваў перанесці перагаворы ў якую-небудзь нейтральную краіну. 1 красавіка 1920 года ўрад Польшчы катэгарычна адхіліў савецкія прапановы аб спыненні баявых дзеянняў на працягу ўсяго фронту і аб пераносе месца перагавораў. 2 красавіка ўрад РСФСР абвінаваціў кіраўнікоў Польшчы ў нежаданні ўстанавіць мірныя адносіны. 8 красавіка 1920 года Пленум ЦК РКП(б), разгледзеўшы пытанне аб перагаворах з Польшчай і палітыцы Антанты ў адносінах да Польшчы і Савецкай Расіі, пастанавіў апублікаваць адозву да рускага народа са звяртаннем увагі на непрымальнасць польскіх умоў перамір'я і заклікаць да гатоўнасці працягваць вайну на Заходнім фронце. У гэты ж самы дзень НКЗС РСФСР выдаў чарговую дыпламатычную ноту, дзе ультыматыўны характар польскіх патрабаванняў адносна перамір'я расцэньваўся як фактычнае адмаўленне ад перагавораў. 23 красавіка НКЗС РСФСР выступіў з заявай "Да мірных перагавораў паміж РСФСР і Польшчай", параўнаўшы мірныя прапановы палякаў з імкненнем дабіцца капітуляцыі савецкага ўрада. У заяве выказвалася гатоўнасць правесці перагаворы ў Гродне ці Беластоку, дзе дэлегацыі маглі быць забяспечаны ўсімі неабходнымі і агульнапрызнанымі тэхнічнымі магчымасцямі, але гэтым разам савецкія прапановы засталіся без адказу з польскага боку.

У канцы красавіка 1920 года польска-савецкі канфлікт зноў перайшоў у стадыю актыўнага ваеннага процiборства. 17 красавіка 1920 года Пілсудскі падпісаў загад аб пераходзе польскіх войск у наступленне з 25 красавіка. Праз некалькі дзён Скульскі на сустрэчы з дэпутатам В. Вітасам, які прадстаўляў у Сейме партыю ПСЛ-Вызволене, заявіў: "Урад мае самыя дакладныя звесткі адносна таго, што бальшавікі не маюць ні моцы, ні зброі, што апрача таго яны абсалютна дэмаралізаваны, разбіты і нядзольныя прадпрыняць што-небудзь сур'ёзнае. Яны толькі бягуць усюды і будуць бегчы ў далейшым. Нашы ж войскі нястомна рухаюцца наперад. Я ўпэўнены, што праз некалькі тыдняў мы зможам прадыктаваць бальшавікам такія ўмовы мірнага дагавора, якія захочам. Тады мы падумаем і пра далучэнне захопленых тэрыторый да Польшчы альбо стварэнне з іх асобных дзяржаў". У гэтых умовах спадзяванні на тое, што Беларусь атрымае магчымасць пакончыць з ваенным ліхалеццем і заняць "свой пачэсны пасад між народамі", здавалася, былі пахаваны назаўжды. Аднак намаганні прыхільнікаў беларускай незалежнасці не былі дарэмнымі. Актыўнасць беларускіх "незалежнікаў" дапамагла беларускім "нацыянал-камуністам" паставіць і практычна вырашыць пытанне адносна ўтварэння Беларускай дзяржавы на савецкай аснове ў ліпені 1920 года.

**Аляксандр ЦІХАМІРАЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 8—11.**

# ПРУСКАЎСКІ УЛІС

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

Назаўтра Лявонка, яшчэ не світала, пабег на чыгуначную станцыю. Там, у канторы, нават узрадаваліся і тут жа прапанавалі разгружаць вагоны. Работа, вядома, часовая. Але якое гэта шчасце — мець хаця б часовую работу! Нават такую — насіць пяцідзесяцікілаграмовыя мяшкі з цэментам. Набралася іх — такіх, як ён — некалькі чалавек. У цэментным пыле яны і не заўважылі, як да іх падышлі нейкія незнаёмыя.

— Уот зі дэвіл ю уонт![1] — сказаў адзін і злосна паглядзеў на пруская̆ца.

— Шкап![2] — сказаў другі.

Лявонка не зразумеў.

— Go away![3] — наступалі незнаёмыя.

— Вон адсюль, штрэйкбрэхеры! — выгукнуў хтосьці яшчэ.

У грузчыкаў апусціліся рукі. Разгрузку давялося спыніць, за нявыкананую работу, ім, зразумела, нічога не заплацілі.

Зноў пацягнуліся беспрацоўныя дні, але аднойчы Боб, які ўсё апекаваўся над хлопцам, з надзеяй паведаміў:

— Схадзі, Леон, на базар, сёння мы там брукавалі плошчу, там хапае ўсяго.

Лявонка паглядзеў на сябра:

— Думаеш, там будзе работа?

— Наконт пастаяннай работы не ведаю, але тое-сёе перахапіць можна. Пакуль што лепшае падвернецца...

Пайшоў на базар. Дапамог нейкаму гандляру панасіць скрынкі з апельсінамі са склада да прылаўка і атрымаў пайдаляра. Схадзіў у сталоўку. Пры базары можна было жыць. Зарабіць — нічога надта не заробіш, а з голаду не памрэш. Палепшаў крыху настрой.

"Раз нарадзіўся на свет, братка, то трэба жыць, — з нейкай новаадкрытай радасцю думаў прускавец. — А жыць жа — добра!".

— Бі стыл, Леон, — падбадзёрваў датчанін.

Бі стыл — па-англійску азначае: не хвалюйся, усё будзе добра. "Так то яно так, — непакоіўся Лявонка, — але ж дзе зарабіць астатнія грошы, каб адаслаць дадому і самому хутчэй вярнуцца?" Тым не менш, як ні дзіўна, гэта развіталіва "бі стыл" прыйшлося яму даспадобы і запомнілася на ўсё жыццё. Потым многія не раз пачуюць "бі стыл" і ад яго...

Аднак Дэтройт — горад вялікі, і праца ўсё ж такі знаходзілася. Мыў аўтамабілі, прадаваў абутак, ахоўваў партовыя склады. Дзе толькі ні працаваў! Уладкаваўся быў паштальёнам, успомніўшы Цімошу, які таксама адведаў гэтай сабачай работы. (Куды ён цяпер падаўся — Цімоша той?). Так перабыў яшчэ адну зіму. Калі пацяплела, разам з Бобам брукаваў вуліцы, трывала ўмацоўваючы іх трамбоўкай-двухручкай. Плаціці слабавата, але трымацца можна было.

Сябраваў з Бобам. Разам выходзілі на прагулкі, наведвалі салун. Сядзелі часам за поўнач. З надыходам зімы разам з Бобам перабраліся ў пансіён місіс Фокс, дзе ў дадатак да начлегу быў яшчэ і сняданак. Новая гаспадыня аказалася жанчынай ураўнаважанай і спакойнай. З боку жыллёвых умоў скардзіцца, здаецца, не было на што. Па-ранейшаму ў нядзелю час ад часу наведваў царкву, неўсвядомлена імкнучыся ў духоўным напружанні душы пераадолець самоту і неўладкаванасць. Ды ён ужо збольшага і прывык да свайго становішча і ўжо ніколі не задаваў сабе пытання: "Нашто я прыехаў сюды?", хаця настальгічная туга і не праходзіла.

Аднойчы прысніўся сон. Яны ўдвух — ён і Ганна. І гэткая яна гожая, якой і тады не была. Першае, пра што ён памкнуўся ёй расказаць, як аднойчы тут, у Дэтройце, абазнаўся: сустрэў дзяўчыну, ну як дзве кроплі падобную на яе. Але Ганна як бы не пачула яго і пачала дакараць: "Ты ж абяцаў мне вадзяных лілій нарваць..." Ён успомніў, што сапраўды абяцаў. "Як тады, на Купалле, помніш?" — "Помню". Яна пасміхнулася, глянула на яго як бы зверху. Вядома, яна ж крыху вышэйшая за яго. "А Трахімку не баішся?" — "Чаго ж мне яго баяцца? Я яму так дам, што ён і другому закажа!" — "О! Які ты стаў..." — "Які?" — "Пройдземся крыху па-над рэчкаю, цяпер яны якраз цвісці пачалі", — прапанавала яна. І яны як бы пайшлі, пад нагамі слалася мяккая шаўковая трава. На другім беразе гарэла вогнішча, "Купалле, — расплюмачыла Ганна, — касцёр паляць". Ён захацеў абняць яе і прытуліць да сябе, нават адчуў пах валасоў і якраз у гэты месцы прачнуўся. "Гэта ж трэба — нават пацалаваць не паспеў, усё абарвалася ў самым цікавым месцы, — пашкадаваў ён. — Эх, каб яна была побач! Мусіць, і сапраўды яшчэ больш пахарашэла Ганна мая!"

Загудзелі фабрычныя гудкі. Пара ўставаць: работа чакаць не будзе...

Перажыўшы зіму, ён зноў пачаў заўважаць, як ім аваладвае бадзяжныя веснавы настрой. Захацелася збегчы — хоць на край свету! — ад гэтых машын, скрыгатлівых трамваяў, пранізлівых ранішніх гудкоў, дыму і чаду, бяссонных салунаў, якія чмурылі галаву так, што назаўтра і не падняць. Цяпер ён пачуваў сябе нашмат смялей, чым раней, нябляга гаварыў па-англійску. Прайшло адчуванне сваёй ніжэйшасці, цяпер ён быў упэўнены, што стаў упоравень з усім навакольным людам. Боб, хоць і не хацеў расставацца з таварышам, параіў падацца на Вялікія Азёры — там працы хапае, заўсёды патрэбны матросы. Ім добра плацяць. Сам Боб ужо працаваў па сваёй спецыяльнасці — слесарам на Форд-мотар-кампані.

Прускавец падумаў і вырашыў ехаць — да станцыі Гудзон. І, як заўсёды, цюкала думка: "Можа, дзядзька Васіль сустрэнецца? Згубіўся недзе, небарака..." Білет каштаваў тры даляры дзевяноста пяць цэнтаў.

Гудзон, дзе ён вышаў з цягніка, — драўляны гарадок на ўзбярэжжы аднайменнай ракі, пры ўпадзенні яе ў возера Эры — адно з Вялікіх Азёр. На тым баку — штат Нью-Джэрсі. Азёры толькі што вызваліліся ад зімовага лёду. Ад вады несла водарасцямі і рыбнай луской. Многія насельнікі Гудзона займаліся рыбацкім промыслам. Развешаныя на скасабочаных слупах, сохлі рыбацкія сеці. Прайшоўшы па ўзбярэжжы, убачыў купку стракага апранутых людзей, якія стаялі ля прычаленага невялічкага карабля і спрабавалі, відаць, на падпітку спяваць нейкую песню. Асабліва гучна гарланіў чалавек у капелюшы з абвіслымі палямі, размахваючы доўгімі, амаль да каленяў, рукамі.

"Гэта і ёсць рыбакі — матросы з прычаленага карабля", — зразумеў прускавец, падыходзячы бліжэй.

— А вам не трэба памочнік?

— Ду ю дрынг віскі[4] — замест адказу спытаў даўгарукі ў капелюшы з абвіслымі палямі. Яго самазадаволена надзьмутыя губы выказвалі ўласную перавагу і нічога болей. Шырокія шлейкі, на якіх віселі штаны, перакрыжоўваліся на грудзях і спіне.

— Спачатку зарабіць трэба, — адказаў Лявонка.

— Йес, зэцс райт![5] — пагадзіліся прысутныя.

— Спайдэр, — адрэкамендаваўся дзяцюк у капелюшы і працягнуў Лявонку шклянку з півам: "На, выпі!" — прапанаваў ён, ссунуўшы на патыліцу капялюш і шырока ашчэрыўшы белыя дзёсны. Яго таварышы весела глядзелі на незнаёмца. Бесцырымоннасць ужо не здзіўляла. Прускавец зрабіў некалькі глыткоў. Спайдэр стаяў, схаваўшы за спіну свае доўгія, як якія клешчы, рукі, потым узяў са стала сухую рыбіну і ўдарыў ёю аб край.

— Уэл?

З палубнай надбудовы вышаў чалавек, кругластвары і шыракагруды, з адтапыранымі вусамі, кінуў погляд у іх бок:

— А можа чалавек і сапраўды не п'е! — у яго руках адчувалася самавітасць і стоеная сіла, вочы запытальна глядзелі на новага чалавека.

— Гэта — боцман, — ціха падказаў адзін з матросаў.

— Шукаю работу, — прадставіўся Лявонка.

— А што ты можаш рабіць?

— Усё, што загадаеце.

Следам за боцманам з'явіўся капітан з люлькай у зубах. "Бос", — здагадаўся хлопец. Грубыя складкі перасякалі яго абветраны твар з каротка падстрыжанымі вусікамі і доўгім чырвоным носам. Няспешная, упэўненая паходка і ўладныя жэсты сведчылі, што гэта чалавек рашучы і валявы. Таксама абмацаў Лявонку пранізлівымі вачыма і з боцманам абмяняўся кароткім позіркам.

— Будзеш матросам! — сказаў боцман.

Так ён уладкаваўся на невялікі рыбацкі карабель (які называўся тут смакам) лавіць рыбу. Атрымаў цёплы світэр, рыбацкія грубыя боты. Плавалі па азёрах. Нездарма яны называліся Вялікімі: берагоў не ўбачыш, усё роўна, як мора. Зваду ў смака непаспешліва лапатала па хвалях, распырскваючы азёрную ваду, шырокае кола. Як толькі вецер — пачыналася гайданка. Даводзілася за нешта трымацца. Але і тут ён нябляга пераносіў марскую хваробу. Як і тады, колькі год назад, калі з сябрамі плыў у Амерыку. Пяць гадоў прайшло, нават крыху больш. Дзе яны цяпер? Пілінко, напэўна, пайшоў уверх, а Ціміоша?

На вадзе для яго было шмат новага. Рыбу тут лавілі зусім не так, як у Прусцы Захарка Руцкі з яго нязменным стаўком. Іншыя і маштабы, і падыход. Назапасіўшы лёду, выходзілі з вусця Гудзона і шукалі на шырокіх азёрных абсягах месца, дзе можна было пачаць лоўлю. Нарэшце знаходзілі, і смак спыняўся. У ваду на стальных канатах з дапамогаю лябёдкі апускаўся трал, які ўяўляў сабою даволі вялікую і ёмістую сетку. Прускавец з тым самым Спайдэрам, што пры першай сустрэчы прапанаваў яму выпіць, па камандзе капітана якраз і круцілі гэтую лябёдку.

— Апусціць трал! — махае рукой капітан, не выняўшы з зубоў нязменнай сваёй люлькі.

Містэр Лукас — так звалі капітана — ведае сваю справу.

— Горы он! — паўтарае яго каманду боцман. — Хутчэй.

Грукоча лябёдка, спачатку апускаецца ў ваду "матня", а потым і ўсё астатняе, уключаючы і стальныя канаты.

Гучыць новая каманда:

— Стоп! Замацаваць лябёдку!

Гэта зрабіць нескладана — Лявонка са Спайдэрам спраўляюцца ў адзін міг.

— Поўны ўперад!

Смак, лапочучы колам па вадзе, набірае хуткасць, але ідзе цяжка, ажно дрыжыць, бо валачэ за сабой трал. Трапілі па дзве-тры гадзіны. Пры гэтым боцман сачыў, каб трал ішоў па самым дне, інакш рыба не патрапіць у сетку. Трэба быць пільным. Трал можа за што-небудзь зачапіцца. Тады, калі не спыніць машыну, парвецца сетка, а пра рыбу ўжо і не пытай. На вахце для пад'ёму трала звычайна знаходзілася чалавек пяць, астатнія адпачывалі. Гэтыя пяць працавалі хутка і зладжана, не дапускаючы лішніх ці адвольных рухаў. Зляталіся чайкі. Лявонка кожны раз дзівіўся, імкнуўся разгадаць, як яны чуюць гэты момант. А можа чайкам перадаецца іх хваляванне, і яны бачаць рухі, жэсты рыбакоў, чуюць скрып лябёдкі і блокаў? Нарэшце смак стапарыцца, нават адыходзіць крыху назад.

— Падняць трал! — каманда з капітанскага мосціка.

Хвалюецца, мусіць, і містэр Лукас, бо забывае пра зашчэмленую між зубоў пагаслую люльку, якая недарэчна тырчыць у яго пад носам. Трал праз сістэму блокаў, якія тут называюць "талямі", падымаецца з вады так, каб яго канец — "матня" — завіс над палубай. Віруе, пеніцца, кіпіць вада ў тым месцы, дзе мае з'явіцца з вады матня. Ужо відаць, як паміж грабеньчыкамі хваль варушыцца рыба. Нарэшце з глыбокай воднай тоні паказваецца матня, уся ў ціне, зялёная ад масы донных водарасцей і Бог ведае яшчэ якіх дзіўных стварэнняў. Свежы вецер абдае рыбакоў халоднай азёрнай вільгаццю. У нос б'е нязвыклы і непрыемны пах азёрнага нутра. Адзін з матросаў хуценька развязвае матню, трал раскрываецца, і на палубу сыплецца рыбнае срэбра: траска, пікша, сайда, палтус, чырвоны марскі акунь.

У 1909 годзе ў Вялікія Азёры ўпершыню была запушчана рыба карушка, так што зрэдку трапляла і яна. Тут жа крабы, ракі, марскія зоркі, вожыкі. Драбната! Ні акулы, ні касаткі ў Вялікіх Азёрах, вядома, не лавіліся. Тое-сёе паспяваюць схапіць чайкі, якія яшчэ больш мітусяцца, крычаць, апускаюцца на палубу. Налоўленую рыбу — большай часткай гэта быў палтус — пластамі складвалі ў трум і вярталіся ў Гудзон, на сваю прыстань. Прадавалі ў той жа дзень тут жа, на прыстані.

Улоў выгружаны, бак запраўлены гаручым, у трум засыпаны лёд, і — у чарговы рэйс. Калі знаходзілі ўдалае рыбнае месца, то назаўтра з'яўляліся туды зноў.

Мурожныя берагі Гудзона нагадвалі родныя паплавы. Ля берага з вады тырчэлі знаёмыя па прускаўскім балацявінам сцяблінкі кугі з чорнымі пачаткамі на канцах. Смак набіраў хуткасць, і неўзабаве берагі Гудзона расступаліся, расплываліся некуды ўдалечынь, зліваючыся з густым папяловым туманам. З чыстага неба зырка свяціла вясенняе сонца, мякка дзьмуў бадзёры паўночны вецярок. Азёрная свежасць добра-такі халадзіла цела. Каб як сагрэцца, бралі з сабой матроскі "джын".

— Рус! Хадзі сюды, табе кажуць!

Гэта — Спайдэр. У руках у яго бутэлька і шклянка. Карак і твар да чарнаты абпаленыя сонцам. Лявонка дастаў сандвічы, халодныя мяса. Са Спайдэрам яны пасябравалі, і калі была пляшка "джыну", бывалы матрос клікаў прускаўца. "Джын" прыемна пах ядлоўцам, духмяная смалой і смакам сваім нагадваў прускаўскую самагонку. Неяк да Лявонкі прывязаўся быў кашаль.

— Страхоўку хоць атрымаў? — пацікавіўся Спайдэр, разміноючы ў руках сухую рыбіну. — Калі застрахавацца, то і ад хваробы можна мець карысць.

— Якую страхоўку? — здзівіўся Лявонка. — Эмігрантаў гэта не датычыць...

Спайдэр спачувальна пакруціў галавой.

У цэлым, аднак, справы пайшлі весялей. За адзін тыдзень ён зарабіў столькі, колькі ў ліцейцы за месяц — шэсцьдзесят даляраў. Грошы Падгурскаму — трыста даляраў — паслаў на адрас Брэсцкага банка і адчуваў невыказную асалоду ад таго, што нарэшце ўдалося расплаціцца з даўгамі. З'явілася думка аб асабістай незалежнасці.

"Ну вось расплаціўся — цяпер на дарогу сабраць і — бывай, Амэрыка!.."

Адзін за другім цягнуліся дні. Сярод матросаў некалькі неграў. Такія ж працавітыя, як і астатнія матросы. Вечарам ля прыстані даймалі камары, тут яны былі нейкія асабліва вялікія і злосныя. Лявонка, калі быў свабодны ад вахты, спускаўся ўніз, клаўся на ложак і, слухаючы, як храпуць яго таварышы-матросы, думаў пра сваё жыццё. Вясёлага, калі падумаць, не так і шмат. А свят і зусім няма. Выйшаўшы на палубу, пазіраў за борт. З азёрнай глыбіні глядзела зялёная зорка, слаба пабліскваючы сваімі зменлівымі промнямі. Як тады, на Купалле, з Ганнай.

Пасля вяртання з уловам начаваў тут жа, на караблі. Часам ішоў у барак, але ўмовы там былі не лепшыя. Ноччу ўжо не раз снілася, што ўсчалася бура і на іх маленькі смак вось-вось навальіцца высокая хваля. Прачынаўся звычайна яшчэ да ўсходу сонца.

Вядома, усё залежала ад улову. Апошнім часам шанцавала менш. Капітан выглядаў сярдзітым і задуменным. Усе з нецярпеннем чакалі таго моманту, калі адкрыецца сезон лоўлі вустрыц. Вустрыцамі тут называлі ракушкі, што пладзіліся на плітках азёрных мясцінах — водмелях. "Вось гэта — дзел!" — цмокаў языком Спайдэр і ўспамінаў мінулагодні сезон, калі яны, паводле яго слоў, ледзьве не сталі мільянерамі. Работа, праўда, нялёгкая.

1 Якога чорта табе трэба? (англ.)
2 Штрэйкбрэхер! (англ.)
3 Ідзі адсюль! (англ.)

4 Віскі п'еш? (англ.).
5 Гэта так! (англ.).

**Працяг.**
**Пачатак у № 11.**





# ЛЮДЗІ, ЯК КОЛЕРЫ...

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

аддзяленні. У кватэры і зараз на сцяне вісіць мой дыплом, праўда, не ў рамачцы, — дыван пад назвай "Папараць-кветка".

Аднак, калі я яго рыхтавала, асабліва моцнага захаплення фальклорам, народнай творчасцю яшчэ не было, хаця наш выкладчык Міхась Раманюк браў нас у фальклорныя паездкі, дзе рабіліся адпаведныя замалёўкі. Тэму дыпломнай выбрала хутчэй інтуітыўна. Вельмі ўжо вобразна ўявілася мне цёмная ноч і кветка, якая гарыць агеньчыкамі сярод прыгожых, амаль ажурных сілуэтаў лістоў папараці... Эскіз доўга не выходзіў такім, як мне хацелася. І нават калі ўжо прыехала на камбінат у Віцебску выконваць саму работу, не адчувала задавальнення. Здавалася, і малюнак сам па сабе нядрэнны, але не атрымліваўся задуманы каларыт... Дырэктар камбіната ўвогуле быў супраць мяне: навошта яму лішнія клопаты са студэнткай? Дыван трэба ж было запусціць у вытворчасць, а потым адправіць у гандаль. Карацей, не падабалася яму ўсё.

І вось апошняя ноч — сядзела ўсю напралёт і спаць не хацела, нібыта нехта ці нешта трымала мяне... Не ведаю, колькі пластоў фарбаў перапэцкала, але перад ранкам гляджу: нешта стала вымалёўвацца. Калі паказала вынікі "бяссонніцы" свайму мастацкаму кіраўніку, убачыла — атрымалася! Пазней той дыванок пабываў на некалькіх выставах і меў нядрэнныя водгукі.

### ПРА РАБОТУ

Валянцін Дудкевіч заўважыў мяне пасля майго ўдзелу ў падрыхтоўцы святочнага канцэрта да 40-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Запрасіў да сябе ў ансамбль, за што я яму на ўсё жыццё ўдзячная. Дудкевіч для мяне сапраўдны прыклад, як трэба адносіцца да справы і паводзіць сябе з людзьмі. Ён валодае надзвычайным адчуваннем такту, меры, далікатнасці. І хаця Дудкевіч вельмі раўніва ставіцца да таго, калі я працую з кім-небудзь яшчэ (я, дарэчы, імкнуся гэтага пазбягаць), мне прыйшлося супрацоўнічаць з іншымі цікавымі калектывамі, напрыклад, ансамблем "Сябры". Гэта адбылося падчас свята славянскай пісьменнасці. Касцюмы рабіліся літаральна для аднаго нумара — песні пра Янку Купалу. Мелодыя мяне проста зачаравала, і я стала шукаць адпаведны вобраз. Хацелася пракласці нейкі масточак да Скарыны. Урэшце, спынілася на іканапісных, царкоўных матывах. Увяла элементы "шляхетнасці", і ўсё на аснове сучасных канструктыўных форм. Зрабілі касцюмы за тыдзень. Прыйшлося нават дапамагаць закройшчыкам. Але, лічу, атрымалася нябла-га.

Акрамя Дзяржаўнага ансамбля танца ў мяне былі работы для камернага аркестра народных інструментаў радыё і тэлебачання — музыкантаў і асобна салістаў. Напрыклад, для Тамары Пячынскай. Калі памятаеце, яна пела: "Чорна галка, чорна галка..." Вось у мяне і выйшаў крыху стылізаваны ўбор... А для аркестра... Тады якраз пайшла такая плынь — шляхетнасць. Я гэта і выкарыстала.

### ПРА СТАЎЛЕННЕ ДА НАРОДНАГА КАСЦЮМА

Мне здаецца, ужо надакучыла наша вечная "мужыцкасць", сялянскасць ва ўсім і заўсёды. Між іншым, вопратка вельмі моцна ўздзейнічае на псіхіку чалавека, стварае эмацыянальны настрой. Калі ўвесь час хадзіць выключна ў лапцях, то і сапраўды зробішся прыгнечаным і прыніжаным. Доўгі час гэта было нават палітыкай — паказаць чалавека занадта простым — забітым, шэрым, нівеліраваным. Згадаем рускі касцюм. Колькі дзесяцігоддзяў артысты выходзілі на сцэну ў кароценькіх кашульках, лапаточках і картузіках з прышпіленай кветачкай — усе аднолькавыя. Хіба ж толькі такі сапраўдны рускі касцюм, які на самай справе ўяўляе з'яву багацейшую і шматпланавую?! Тое ж і з беларускім касцюмам. Вельмі цікавай была вопратка шляхты, дзе адчуваліся ўсходнія матывы і традыцыі — кантушы, багатыя тканіны, парча... Ды што далёка хадзіць. Вазьміце тыя ж слуцкія паясы. Я пра гэта нават артыкул напісала. Калі заўсёды ж выглядаць беднымі і няшчаснымі, то і жыць так будзеш. Я як мастак лічу: трэба бачыць лепшае і тым самым узнімаць чалавека. І без мастакоўскай фантазіі тут не абысціся.

Такая ўжо, мабыць, мая душа — не магу спыніцца на аўтэнтыцы, проста яе капіраваць. Нецікава. Гэта ўжо ёсць, гэта ўжо само па сабе твор мастацтва. Тыя людзі, што са мной працуюць, ведаюць мае погляды. Прынамсі, Валянцін Дудкевіч, кіраўнік ансамбля танца, мяне разумее. Нашы творчыя падыходы ў нечым падобныя. Яго харэаграфічныя творы таксама нельга назваць чыста аўтэнтычнымі, яны больш класічныя, нават акадэмічныя, але аснова — так, народны танец.

### ПРА ЎЗАЕМААДНОСІНЫ З КАЛЕГАМІ

Калі яшчэ толькі пачынала працаваць, было шмат спрэчак, асабліва на разнастайных мастацкіх саветах (зараз іх, дзякуй Богу, няма). Засядалі там нярэдка непрафесіяналы, але пачыналі выдаваць табе парады і рэкамендацыі. А яшчэ намёкі на тое, што я не беларуска, а татарка, і касцюмы ў мяне — літоўскія, татарскія, а не беларускія. Чаго толькі ні наслухалася. Хаця, урэшце, маё перакананне: усе мы ад адной прамаці і трэба не раз'ядноўвацца, а аб'ядноўвацца і, як розныя колеры на адной палітры, складаць агульную гармонію.

### ПРА СЯМ'Ю

Сям'я мая невялікая. Замуж выйшла яшчэ студэнткай, таксама за мастака. У 1971-м нарадзілася дачка Галія. Мы не мелі на той час сталага жылля, таму некалькі год яна выхоўвалася ва Уздзе ў бабулі, за што зараз, здараецца, мне і выгаворвае.

Дачка ў дзяцінстве таксама вельмі захаплялася творчасцю, балет любіла, дарэчы, як і муж, у якога ў майстэрні стаяла вялікае палатно, падрыхтаванае "для балета".

У дзяцінстве, памятаю, сядзела на печцы і марыла: як добра было б мець піяніна. Атрымалася, што толькі ўнука аддалі вучыцца музыцы, але я сапраўды шчаслівая: няхай так, але мара рэалізуецца. Галія засталася жыць ва Уздзе, хаця скончыла тэатральна-мастацкі інстытут, яна — мастацтвазнаўца. На жаль, пакуль работы па спецыяльнасці не знайшла, вядзе заняткі аэробікі, бо скончыла таксама і культасветвучылішча — па танцах. Праца цяжкая і не надоўга — пакуль маладая.

Муж вельмі хацеў, каб я, акрамя творчасці, яшчэ і выкладала. І калі здарылася няшчасце — ён вельмі рана памёр, — я занесла свае дакументы на архітэктурны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, дзе вучу студэнтаў малюнку і сёння. Мне вельмі падабаецца праца з маладымі, я іх люблю, чэрпаю ад іх моцную станоўчую энергетыку.

Пасля нечаканай смерці мужа апынулася ў вельмі цяжкай дэпрэсіі, амаль не працавала, хаця творчасць для мяне — усё, сэнс існавання. Аднак трэба было неяк вяртацца да жыцця. Пачала выконваць асобныя заказы. Запомнілася прапанова аформіць кнігу Янкі Хвараста "Зборнік беларускіх народных танцаў". Работа зацікавіла, я зрабіла замалёўкі, у якіх імкнулася адлюстраваць касцюмы "ў руху", як апісваў танец Янка Хвораст (дарэчы, так раблю цяпер заўсёды). Аўтару спадабалася. Падрыхтавала эскізы для двух тамоў кнігі. Матэрыял збірала вельмі скрупулёзна, шмат працавала ў фондах Акадэміі навук. Але памёр Янка Хвораст, выданне кнігі адклалі. Пазней яна выйшла, але ўжо без ілюстрацый. І што вельмі крыўдна: ілюстрацыі ўвогуле згубіліся. На мае прэтэнзіі атрымала адказ: "Мы вам грошы заплацілі..." Захаваліся толькі некаторыя чарнавікі. Пасля таго прыйшла да высновы: ніхто акрамя самога аўтара не захавае яго работы лепей. Таму амаль усе малюнкі цяпер трымаю дома.



### ПРА БОГА І РЭЛІГІЮ

У жыцці мне давялося спазнаць нямала. Былі не толькі творчае натхненне і перамогі. Хапала страт, ды і памылак нарабіла нямала. Але ў рэшце рэшт зразумела: без веры, без духоўнасці жыць чалавеку нельга. Я ўжо казала, што паходжу з беларускіх татар, шасцісотгоддзе асадніцтва якіх нядаўна святкавалася. Я не лічу сябе рэлігійнай фанаткай, я чалавек увогуле вельмі зямны, але мяне цікавіць мусульманская рэлігія, чым магу, дапамагаю ў рабоце татарскай абшчыне ў Мінску. З задавальненнем вывучаю Каран. Некаторыя людзі лічаць мусульманскую рэлігію жорсткай. Але яны памыляюцца. Бог адзіны і вучыць усіх людзей аднаму і таму ж — дабру, цярплівасці, працавітасці. Іншая справа, як самі людзі трактуюць і выконваюць Божыя запаведзі.

### ПРА БУДУЧЫЯ ПЛАНЫ

Працаваць, працаваць, працаваць. У гэтым маё жыццё, сэнс існавання на зямлі.

**Запісала Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКАХ: эскізы сцэнічных касцюмаў Айшы АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

---

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# ДАРУЙ МНЕ, СЛУЧЧЫНА...

*Памяці Васіля Віткі*

...Вярталася з Паўночных мінскіх могілак, і ўсю дарогу праводзіў і неадступна гучаў мне даўні, выпадкова прачытаны — нечаканы — надпіс на помніку на другіх могілках.

**Даруй, Іспанія, даруй,**
**Што я ляжу так ад цябе далёка!**

Адкуль ён узнік там, каму належаў той шчымлівы іспанскі жаль і смутак? Ні гадоў жыцця, ні імя самога чалавека, што заснуў у чужой зямлі, у памяці маёй не засталося. Засталіся толькі радкі незвычайнай эпітафіі.

...Паступова ў дарозе Іспанія адступала, адступала... І неўпрыкмет уяўленне малявала другую радзіму — с в а ю — такую ж любую і незаменную... З зялёным сярод залатога жытнёвага палетка чубам старога бярэзніку на пагорку. З вясёлай чарадой маладых арабін уперамежку з бярозамі і бэзам... Штогод увесну ўсыпаюць зямлю там срэбрам ландышы, квітнее і духмяна і абцяжарана хіліцца да крыжоў і помнікаў бэз, малаком-сырадоем пеняцца ад цвету арабіны... І ні на хвіліначку — з ранняй зоркі да заходу сонца — не сціхаюць у голлі, цвіркаюць і звіняць, свішчуць без стомы птушкі.

І вечны сон-спачынак здаецца т а м жаданым і прыветным.

...Як і кожнаму смяротнаму чалавеку, пэўна ж, і яму бачыўся ўласны з в а р о т, калі надыдзе той непазбежны час, таксама толькі с ю д ы, на гэтую зямлю, да сваіх бяроз і арабін. Пад тую старую бярозу на самым пагорку — увесь свет відзён навокал! — дзе спачывала ўся яго радня, яго маці з бацькам, а да іх — яшчэ даўней — бацькавы і матчыны бацькі спачывалі...

**З узгорку таго, што пагляду прыкметны**
**Між родных і мілых прастораў здалёк,**
**Як лёгка мне будзе дыхаць паветрам**
**Лугоў канюшынных, пшанічных палёў.**
**Прытулак мой ціхі...**

Такія радкі ўзнікалі, пэўна, і спеліліся ў хвіліны, калі душа Паэта заставалася і прасветлена гутарыла сам-насам з сабою.

З гадамі, з узростам, з ч а с а м утравелыя магільныя пагоркі і замшэлыя крыжы і камяні-помнікі з даўно забытымі імёнамі як быццам набывалі ўсё большы і прыцягальны сэнс, бязмоўна набліжалі недасягальную таямніцу ўсяго існага. І нібыта суцяшалі...

...І сапраўды ўяўлялася яму: як аднойчы — пасля школьных урокаў — зазвіняць тут бесклапотныя дзяціныя галасы і смех. Цэлым класам прывядзе маладзенькая прыгожая настаўніца туды сваіх вучняў, каб пацешыць Паэта кветкамі і вяночкамі, сплеценымі дзяцінымі рукамі з любай яму валошкі і рамонкаў... Напэўна ж, успомняць і раскажуць яны яму радкі яго вершаў... Ён не шкадаваў і сам пакінуў ім нямала ўцехі. У вершах сваіх і казках... Як і яны — яго любыя шчабятуны — ён і сам гэтак жа па-дзяцінаму ўмеў цешыцца і захапляцца з дабрыні і хараства свету.

У пэўным сэнсе ён быў геданістам — жыццё вабіла яго ва ўсіх сваіх шматдзейных захапляючых праявах. І тым было яму бясконца жаданае.

**Якая асалода жыць!**
**Знаць вартасць кожнае гадзіны.**
**Тым, што адкрыта, даражыць**
**І адкрываць за дзівам дзіва.**

**З апошніх сіл узяць рубеж,**
**Бясконцасці жыцця дзівіцца,**
**Пераканацца, што жывеш,**
**Што сэрца яшчэ можа біцца!**

Сэрца Паэта білася да апошняга вечара яго жыцця. Ён, мабыць, так і заснуў, праслухаўшы канцэрт высокай музыкі (музыка заўсёды была неабходная яго душы), заснуў з адчуваннем асалоды бясконцасці жыцця...

...Ён не вярнуўся на мілую радзіму, якую аддана любіў і, дзе б ні жыў-быў, марыў пра яе і складаў ёй пранікнёныя вершы.

**Будзеш ты ўсюды неразлучаны**
**З першымі ўспамінамі жыцця,**
**З ціхаю тугой па роднай Случчыне,**
**З шолахам альховага лісця.**

**З тою прыдарожнаю алешынай,**
**Што ў зацішку пры шашы шуміць...**
**Хіба ёсць на свеце шчасце лепшае,**
**Як пад небам бацькаўшчыны жыць!**

...Ён не вярнуўся да яе на вечны спачын. І таму гэтак блізка адгукваўся ў сэрцы шчымлівы іспанскі боль. Адгукваўся — п а-с в о й м у...

**Даруй мне, Случчына, даруй,**
**Што я заснуў так ад цябе далёка...**

* * *

...Я не была на пахаванні Паэта. І таго дня на Паўночныя могілкі прыехала пакласці яму кветкі. Запозненыя кветкі...

...Пад вечную дамоўку патрэбныя с а ж н і ўсеўладная ўлада (і на могілках!) адмерала Паэту ў такой пустэльні, якую параўноўваць можна было хіба толькі з Сахарай. Ні лісціка, ні кусціка, ні хваінкі! Ні шматка нават цянёчку, каб зліта сціліцца над белай мудрай галавою...

Ды яшчэ ж і ў гэтай с а х а р ы месца Паэту не выпадала! Саюз пісьменнікаў кланяўся, выбіваў (!) яго ў самых непрыступных з а ў х о з а ў, што прыбралі да сваіх прагавітых лап сёння ўсю дзяржаву. І гандлююць ужо і гарадскімі могілкамі таксама. Адной рукой — в ы б а р а ч н а — выкрэсліваюць з мемарыяльнай "наменклатуры" імя нябожчыка, а другою напярэганкі падпісваюць уласныя прозвішчы пад некралогам. Прэстыжна — як-ніяк п і с ь м е н н і к. І не адумаюцца духоўныя люмпены: іх жа ўласныя дзеці першую сваю навуку пачыналі, пэўна ж, з калыханак і казак Паэта. Па чытанках, складзеных Паэтам, пачыналі ўглядацца і пазнаваць свет.

Самім жа сабе сённяшнія дзяржаўныя "землямерыкаморнікі" хціва вымяркоўваюць не інакш, як вечнае панаванне і бяссмерце на бессмяротнай беларускай зямлі-пакутніцы.

**Дарэмна! Дарэмна...**
**Бяссмерце наканавана Паэтам.**
**І радкам іх вершаў.**
**Айчына любові, смутку і смуты,**
**Продкаў самаахвярная плаха,**
**Ты і алтар, і крыж нашай пакуты,**
**Галгофа і Гараваха.**

**("Сейбітам Случчыны").**

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

## СТОГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ





**Споўнілася сто гадоў з дня стварэння першай у Беларусі школы малявання і жывапісу ў Віцебску. Яе заснавальнікам быў мастак Юрый Пэн. У пажаўцелых ад часу "Віцебскіх губернскіх навінах" за 1898 год гаворыцца, што вучням прапаноўваўся курс малявання геаметрычных прадметаў, арнаментаў, гіпсавых фігур, а таксама жывапісу з натуры і на пленэры. Школа малявання і жывапісу Ю. Пэна праіснавала да 1918 года. З 1919 па 1923 год Юрый Пэн узначальваў жывапісна-рысавальную майстэрню ў Віцебскай народнай мастацкай школе, якую заснаваў Марк Шагал. Пасля смерці Пэна ў 1937 годзе і да пачатку вайны яго работы паказваліся на выставах. Чатыры гады назад у Віцебскім мастацкім музеі пачалася работа над каталогам мастака.**

**НА ЗДЫМКАХ: Юрый ПЭН з вучнямі школы малявання і жывапісу; магіла Юрыя ПЭНА ў Віцебску.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## У КОЖНЫМ РАДКУ — ЧЫСЦІНЯ

*У сакавіку паэту-песенніку Уладзіміру Пецюкевічу спаўняецца 55. Здаецца, гэта той узрост, калі амаль незаўважна пачынаюць слабець пачуцці, і ўсё мацней і мацней філасофская сіла жыццёвым абагульненнем уваходзіць у верш.*

*Але ва Уладзіміра Пецюкевіча па-іншаму.*

*Быццам само сэрца рвецца з грудзей на волю — самотнаю чайкаю, пяшчотна згадваючы першае каханне ў азёрнай старане: "...Па браслаўскай чайцы сэрца плача і журыцца песняй над зямлёй", то ляціць на крылах жалобных кнігавак: "Паплачце, кнігаўкі, паплачце над полем горкіх палыноў,.." то плача Багрымавай жалейкай: "Грай, Багрыме, грай, мой мілы, — просіць маці — беларуская пакутная зямля,.." то імкнецца на крылах чарадзейнае птушкі — беларускай мовы: "Покуль песня лунае, покуль мова жыве — дух жыве беларускі і жыве Беларусь!"*

*Яны, яго песні, даўно здабылі пашану на Беларусі. Часта гучаць на радыё і тэлебачанні. Іх любяць за чысціню. Як пяшчотнае святло свечкі — у паўсядзённым нашым жыцці.*

**Яўген КРЫЦКІ.**

**Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ**

### НЕ СУМУЙ, МАТУЛЯ!

**Не сумуй, матуля, усміхніся долі —**
**Да цябе ляту я, да цябе,**
**Паблукаў па свеце, па гарах і долах,**
**Натаміўся сэрцам у журбе.**

**Над зямлёю кружыць белакрылы бусел,**
**Абдымае зорны небакрай,**
**Абдымае сонца роднай Беларусі —**
**Я вярнуўся, мама, сустракай!**

**Ой, як сэрца б'ецца, плача і смяецца —**
**Светлыя азерцы, ясны гай,**
**А за гаем — хата і дымок віецца...**
**На вячэру, мама, запрашай!**

**Мы з табой, матуля, не заснем да ранку —**
**Успаміны-згадкі — чарадой,**
**У вясну, у казку, ў песню-калыханку**
**Паляту я, мама, за табой...**

**Над зямлёю кружыць белакрылы бусел,**
**Абдымае зорны небакрай,**
**Абдымае сонца роднай Беларусі —**
**Я вярнуўся, мама, сустракай!**

### БАЛАДА

**На гнядым звінела срэбраная збруя,**
**Біў ён капытамі ў прадчуванні сеч...**
**Дзеўчына-красуня у дарогу злую**
**Хлопцу маладому падавала меч:**

**— Любы мой, харошы, сокал мой адважны,**
**Ад варожай зграі барані наш край,**
**Будзе мне трывожна, будзе мне і страшна,**
**Будзеш ты мне сніцца, любы мой, бывай!**

**Барані сцяжынкі там, дзе мы хадзілі,**
**Дзе спявала наша зорная вясна,**
**Барані каханне, барані Радзіму,**
**Барані, святую, — ў нас яна адна...**

**На гнядым звінела срэбраная збруя,**
**Біў ён капытамі ў прадчуванні сеч...**
**Дзеўчына-красуня у дарогу злую**
**Хлопцу маладому падавала меч.**

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

# СПАДЧЫНА

**MY HERITAGE**

*Text Ja. KUPALA* — *Ihar LUCHANOK*




**1. Ад прадзедаў спакон вякоў**
**Мне засталася спадчына;**
**Паміж сваіх і чужакоў**
**Яна мне ласкай матчынай.**

**Прыпеў:**

**Аб ёй мне баюць казкі-сны**
**Вясення праталіны.**
**І лесу шэлест верасны,**
**І ў полі дуб апалены.**

**2. Аб ёй мне будзіць успамін**
**На ліпе бусел клёкатам**
**І той стары амшалы тын,**
**Што лёг ля вёсак покатам.**

**Прыпеў.**

**3. І тое нудае ягнят**
**Бляяне — зоў на пасьбішчы,**
**І крык варонiных грамад**
**На могілкавым кладбішчы.**

**Прыпеў.**

**4. Жыве з ёй дум маіх сям'я**
**І сніць з ёй сны наводныя...**
**Завецца ж спадчына мая**
**Ўсяго Старонкай Роднаю.**

**Прыпеў.**

**1. A gift of worth they did bestow**
**My forebears of by gone age;**
**Midst strangers, or the friends I know,**
**I cherish this my heritage.**

**Refrain:**

**Dream-tales of thawing snows in spring**
**Those distant memories evoke,**
**With autumn woodlandswhispering,**
**And there-a lonely, storm-rent oak.**

**2. They mind me of those lindens, whence**
**I heard the clacking storks refrain,**
**The ancient, broken, moss grown fence**
**That reels beside a country lane.**
**Refrain.**

**3. I hear, where verdant grassland grows,**
**The plaintive bleat of vearling sheep,**
**The raucous-cries of gathering crows**
**Where near the church our fathers sleep.**
**Refrain.**

**4. My kindred thoughts shall be at hand,**
**To muse on what my dreams presage...**
**For this, my dearest native land,**
**Is my own precious heritage.**
**Refrain.**

***Janka KUPALA (1886—1942)***
***Translated from Belarusian by G. Picarda.***

**На Берасцейшчыне выходзіць газета на ўкраінскай мове "Берестейський край". У ёй некаторыя матэрыялы друкуюцца на рускай, беларускай і польскай мовах. Заснавальнік — грамадскае аб'яднанне "Прасвіта Берасцейшчыны" імя Т. Шаўчэнкі.**

**Адрас рэдакцыі: 224020, г. Брэст, вул. 2-Завадская, 9, галоўны рэдактар Петрукговіч Міхайла Мікалаевіч. Тэлефон: 42-99-89.**

***Падпісны індэкс 63249, газета мае рэспубліканскі статус, падпісацца на яе можна ў кожным паштовым аддзяленні Рэспублікі Беларусь.***

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».**
**(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 460.**
**Падпісана да друку 23. 3. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**